НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 44 (737) 30 лістапада 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## 15 кажаноў «засяліліся» ў мінскую кватэру



Кажан — бяскрыўдная істота. Крыві не п'е, у валасы не лезе. Старонка 8.

# Такая вось любоў

Лукашэнка **прадаў «Белтрансгаз»**, у абмен на гэта атрымаў танны газ. **Старонка 3.**



**Тэндэнцыі**

## Еўропа нас навучыць

**Вялікая праграма** фінансавання адукацыі беларусаў запускаецца пры падтрымцы Еўрасаюза і скандынаўскіх краін.

У яе рамках кожны грамадзянін Беларусі зможа атрымаць стыпендыю на навучанне ў бакалаўрыяце альбо магістратуры фактычна любога ўніверсітэта ЕС. Ініцыятары праграмы спадзяюцца, што па сканчэнні адукацыі стыпендыяты будуць вяртацца ў Беларусь і гэта зблізіць нашу краіну з Еўропай.

Праграму фінансуе Еўрасаюз, а ажыццяўляе «Паўночная рада» — Рада міністраў замежных справаў скандынаўскіх краін. Стыпендыя «Адкрытай Еўропы» пакрые ўвесь кошт навучання ў выбраным універсітэце. Акрамя таго, студэнту будзе выдавацца грант на падарожныя выдаткі ў памеры 800 еўра на год, а таксама 1 000 еўра штомесяц на пражыванне.

Гэтага цалкам дастаткова, каб камфортна жыць у часе навучання. Хопіць і на пакойчык, і на пракорм. Для параўнання: сярэдні заробак у Беларусі на сёння складае каля 230 еўра, або ў 4 разы менш. Таму раней магчымасць вучыцца ва ўніверсітэтах Еўропы (акрамя ЕГУ і Праграмы Каліноўскага) мела толькі моладзь з самых багатых сем'яў і дзеці карумпаванай часткі чыноўнікаў.

**Працяг на старонцы 2.**

**Воля і пятля**

### Літва вылучыць Бяляцкага на Нобеля

Праваабаронца асуджаны. **Старонка 3.**



**Інтэрнэт**

### Заблакуюць «Хартыю» і «Партызан»

Наведваць папулярныя сайты стане складаней. **Старонка 4.**




**Грамадства**

### Прафесія – кантрабандыст

Што возяць з Беларусі ў Польшчу і наадварот кантрабандысты. **Старонка 6.**



**Крымінал**

### Аблава ў Крупках

Суд апраўдаў затрыманых спецназаўцамі людзей. **Старонка 7.**



# Еўропа нас навучыць

Працяг са старонкі 1.

Права на стыпендыю маюць толькі грамадзяне Беларусі.

Заяўкі будуць разглядацца ад абітурыентаў усіх спецыяльнасцяў, але прыярытэт — праву, эканоміцы і сацыяльным навукам, бізнэс-адукацыі, біялогіі, медыцыне, інжынерыі.

Падача заяўкі на паступленне ва ўніверсітэт і на стыпендыю — два асобныя працэсы. Універсітэты прымаюць студэнтаў у залежнасці ад іх акадэмічных здольнасцяў і ведання мовы, у той час як стыпендыі будуць вылучацца на аснове матывацыі. Карацей, малады чалавек мусіць сам дабіцца прыёму ва ўніверсітэт, а тады ўжо скандынаўскі фонд яму аплаціць навучанне і пражыццё. Гэта робіцца, каб адсячы бяздарных шукальнікаў грантаў.

Падаваць заяўку на атрыманне стыпендыі можна яшчэ да залічэння ва ўніверсітэт, але канчатковае рашэнне прымаецца пасля паступлення.

### Каб атрымаць стыпендыю, трэба:

1. Абраць ад аднаго да трох універсітэтаў і праграму згодна з вашымі зацікаўленнямі. Калі вы абіраеце два ўніверсітэты, то яны павінны быць у розных краінах (калі тры, то два могуць быць у адной краіне).
2. Запоўніць анлайн-форму на атрыманне стыпендыі на сайце праграмы і даслаць да 16 снежня 2011. Формы заяўкі, якія паступяць пазней за дату дэдлайну, будуць перанесеныя на наступны перыяд размеркавання стыпендый.
3. Кандыдаты, якія пройдуць папярэдні адбор, будуць запрошаныя на інтэрв'ю ў Вільню. Яно мае адбыцца з 2 да 13 лютага 2012.

Інфармацыя пра ўмовы удзелу, крытэры адбору, працэдуры запаўнення і падачы заяўкі месціцца на сайце праграмы OESS.

Штуршок гэтай стыпендыяльнай праграме дала Плошча-2010. Гэтаксама як Плошча-2006 нарадзіла Праграму Каліноўскага.

Еўропа шукала, якім чынам дапамагчы Свабоднай Беларусі, і прыдумала вось такі інструмент для моладзі. Ахвярнасць удзельнікаў Плошчы, якія данеслі да свету свой «крык, што жыве Беларусь», дала беларускім юнакам — незалежна ад іх палітычных поглядаў — шанец на еўрапейскую адукацыю.

Ужо сёння колькасць беларусаў, якія навучаюцца ў еўрапейскіх універсітэтах, дасягнула гістарычнага максімуму. А запуск новай праграмы дазволіць гэтую лічбу яшчэ павялічыць. Прычым беларусы будуць трапляць не толькі ў ВНУ Польшчы і Літвы, а і ў самыя якасныя ўніверсітэты Заходняй Еўропы.

Пытанне толькі, ці жыццё будзе спрыяць, каб сучасныя Скарыны вярталіся на радзіму.

Маючы еўрапейскі дыплом і веданне мовы, звыклыя да 1000-еўравых стыпендый, ці не выберуць яны працяг кар'еры па месцы вучобы, а не нараджэння? Пакуль еўрапейскія дыпломы не прызнаюцца ў Беларусі, гэта найбольш рэальная перспектыва.

**Мікола Бугай**

Па-беларуску аб праграме: **adukacyja.info**

Сайт праграмы: **oess.eu**



Выпускнікі БДУ змогуць працягнуць адукацыю ў Еўропе.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Шчыліна для бензавозаў

Памежнікі могуць прапускаць аўто за мяжу і часцей, чым **раз на восем дзён**.

Дзяржаўныя структуры вызначылі паважныя прычыны, якія дазволяць беларусам выязжаць у суседнія краіны ў абыход абмежаванняў. Сярод такіх прычын называюцца працоўная альбо прадпрымальніцкая дзейнасць, выезд у аэрапорты, наведванне юбілеяў ці вяселляў блізкіх сваякоў. Асобна ўказаная нават праца на зямельных ці дачных участках. Кожная з гэтых прычын мусіць нейкім чынам быць дакументальна абгрунтаваная. Але ў любым выпадку канчатковае рашэнне — прапускаць праз мяжу ці не — будзе прымацца памежнікамі і мытнікамі.

**ЯМ**



## Сцісла

### У Пружанскім раёне разбіўся вайсковы верталёт: тры чалавекі загінулі

29 лістапада ў раёне аэрадрома Пружаны, каля вёскі Засімавічы, разбіўся верталёт Мі-24 181-й баявой верталётнай базы ВПС. Загінулі камандзір экіпажу маёр Алег Кахно, бартавы тэхнік капітан Валер Бабко, лётчык Глушчанка.

### Брэйвік — неадэкватны

Суд над нарвежскім тэрарыстам Брэйвікам адбудзецца, але, хутчэй за ўсё, яго адправяць у псіхушку, а не ў турму. Псіхіятры выявілі ў Брэйвіка паранаідальную шызафрэнію. Ён унушыў сабе, што абраны для выратавання нарвежскага народа і надзелены правам вырашаць, хто павінен жыць, а хто — памерці, гаворыцца ў дыягназе.

### «Вігма» праверыла «на экстрэмізм» новы альбом Памідорава

Гурт Pomidor/OFF пасля дзевяцігадовага маўчання выпускае новы альбом — «Пафас/Папса/Прапаганда». Яго выдае кампанія «Вігма». Выдаўцы напярэдадні папрасілі на вычытку тэксты песень Аляксандра Памідорава. «Можаце лічыць, што гэта такі своеасаблівы піяр, — патлумачыў «НН» Сяргей Рудовіч, прадстаўнік кампаніі «Вігма». — Мы не займаемся палітыкай, мы выдаём дыскі. Час ад часу проста правяраем матэрыял, які выпускаем». У выніку нічога экстрэмісцкага ў тэкстах Памідорава не знайшлося.

Прэзентацыя альбома «Пафас/Папса/Прапаганда» адбудзецца ў пятніцу 2 снежня ў клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16).

### Агідны «падарунак» Вярцінскаму ад чаргінцоўцаў

Холдынгавыя выданні адрэагавалі на 80-годдзе паэта маўчаннем і брыдкімі пасквілямі. Прамаўчаў штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». (Тут цяперашні «ЛіМ» паслядоўны: не «апусціўся» ён і да ўпамінання юбілеяў такіх «дробных сошак», як Ніл Гілевіч і Генадзь Бураўкін.) А пасквілі з'явіліся на сайце «Литературная критика», што пад эгідай чаргінцоўскага Саюза пісьменнікаў Беларусі.

### МТС зноў павышае цэны

Ад 1 снежня. Ад апошняга павышэння не прайшло яшчэ і трох дзён. Новыя расцэнкі можна пабачыць на сайце.

**СГ; ЮУ**

### Самае чытанае на nn.by за 23—29 лістапада

1. Беларускія студэнты атрымаюць магчымасць бясплатна вучыцца ва ўніверсітэтах Еўропы
2. Рэпартаж з дурдома. Свет вачыма БТ
3. «Расстрэл для Канавалава — занадта лёгкая смерць»
4. Аблава ў Крупках: суд устаў на бок затрыманых
5. Ці быў у Канавалава «куратар»?
6. Сяргей Дарэнка назваў беларусаў хобітамі, а Беларусь — глухім кутом Еўропы
7. Танны газ забяспечаны: Бяляцкі атрымаў 4,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму
8. Расіянка напампавала сабе самыя вялікія вусны ў свеце — фота
9. Жудкая аварыя на МКАД: легкавік зляцеў з моста — загінулі трое — фота
10. Дарафееў: Працаваць на БТ пасля 19 снежня — злачынства

# Літва вылучыць Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію

**Чатыры з паловай гады.** Менавіта столькі павінен правесці ў турме праваабаронца, кіраўнік «Вясны» Алесь Бяляцкі.

Такое рашэнне 24 лістапада прыняў суддзя Сяргей Бандарэнка. Бяляцкага прызналі вінаватым у нявыплаце падаткаў, што пацягнула шкоду ў асабліва буйных памерах.

Таксама ён павінен выплаціць дзяржаве 721 мільён (84 тысячы даляраў) шкоды. Такім чынам маем вынік «зняволенне плюс канфіскацыя».

Справа Бяляцкага пачалася яшчэ да леташніх выбараў, у самы разгар лібералізацыі. Старшыня КДБ Вадзім Зайцаў рабіў запыты ў пракуратуру і КДК аб дзейнасці Бяляцкага. У ноч Плошчы, 19 снежня, спецслужбы прыйшлі на офіс «Вясны» раней, чым у штабы кандыдатаў.

Тады Бяляцкага не арыштавалі. У зняволенні ён апынуўся ў жніўні, калі стала вядома, што інфармацыю аб рахунках сяброў «Вясны» «здалі» літоўцы і палякі. Прычым для Бяляцкага гэта не было навіной у момант арышту, ён ведаў пра гэта нашмат раней, але прыняў рашэнне не ўцякаць з краіны.

**Акцыі салідарнасці з Бяляцкім прайшлі ад Польшчы да Зімбабвэ »**

Мог апынуцца за кратамі і бліжэйшы паплечнік Бяляцкага Валянцін Стэфановіч. Але ў яго сума нясплачаных падаткаў была недастатковая, каб па заканадаўству пацягнуць за сабой зняволенне. «Гэта не таму, што мяне вырашылі не чапаць», — кажа Валянцін.

Грошы на рахунках Бяляцкага ішлі на праваабарончую дзейнасць. Шмат гадоў «Вясна» займаецца тым, што дапамагае рэпрэсаваным, аплачвае працу адвакатаў палітзняволеных, падтрымлівае звольненых з працы. «Вясна» не пакідала нікога ў бядзе і ў сваёй дзейнасці была эфектыўнай.

Алеся Бяляцкага ўжо не першы год вылучаюць на Нобелеўскую прэмію міру. Пасля арышту гэтая прапанова загучала яшчэ часцей. За кандыдатуру беларускага праваабаронцы выступілі мінулыя лаўрэаты (іранка Шырын Эбадзі) і маральныя аўтарытэты (былы прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавал).

Міністр замежных справаў Літвы Аўдронюс Ажубаліс паабяцаў, што ягоная краіна таксама далучыцца да гэтай акцыі. Палякі ж паабяцалі дапамогай у кампенсацыі канфіскаванай маёмасці праваабаронцы.

Акцыі салідарнасці з Бяляцкім прайшлі па ўсім свеце – ад Польшчы да Зімбабвэ.

**Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Пошта Рэдакцыі

**«Я замежнік і калісьці сустракаўся з Бяляцкім»**

Я хачу выказаць свой сум і сваё абурэнне пасля прысуду. Я жыў у Беларусі і настолькі любіў вашу краіну, што вывучаў беларускую мову. За свабоду ў Беларусі заўсёды выступаю, калі з'яўляецца магчымасць.

Калі я быў у Мінску, мяне аднойчы затрымалі спецназаўцы. Я ведаў, што такія паводзіны з'яўляюцца нормай, але заўсёды горш, калі ты сам апынаешся ахвярай. Мне радзілі, каб я звярнуўся ў праваабарончы цэнтр «Вясна». Там я знайшоў людзей, якія былі гатовы мне апамагчы падаць скаргу ў пракуратуру. У «Вясне» я сустрэў інтэлігентных і мужных людзей, якія вераць у сваю справу і не баяцца змагацца.

Падчас іншага наведвання «Вясны» я змог пагутарыць з Алесем. Тады быў студзень і рэпрэсіі былі штодзённымі. Таму ён мяне вельмі ўражваў сваімі спакоем і перакананасцю.

Я не вельмі добра яго ведаю, але я ведаю, што наступныя гады ён правядзе за кратамі, таму што хацеў працягваць працаваць праваабаронцам. Ён хацеў далей дзейнічаць нават пасля таго, як рэжым зрабіў усё, каб працаваць законна было яму немагчыма. Для мяне Алесь — сучасны партызан, адзін з найлепшых беларусаў. Хачу пазычыць яму яшчэ больш мужнасці і зычу ўсім беларусам, каб ім вярнулі гэтага вялікага змагара.

**Андрэ з Вялікабрытаніі**

# Такая вось любоў

Каму газ, **каму — труба**.

Лукашэнка ў другі раз за месяц наведаў Маскву. Цяпер ужо ён удзельнічаў у сустрэчах тэт-а-тэт з расійскім кіраўніцтвам.

Галоўны вынік перамоваў – Беларусь атрымае налета газ амаль у два разы танней, чым сёлета. У абмен жа расейцы за 2,5 мільярда атрымалі другую палову «Белтрансгаза».

Такім чынам, Лукашэнка пайшоў на прыватызацыю «ласага кавалка» беларускай эканомікі. Хаця яшчэ паўгода таму кіраўнік краіны казаў: «Разыходзьцеся, продажу не будзе, тым больш за бесцань, як гэта сёй-той хоча прыхапіць. Гэта не належыць ні мне, ні вам. Гэта народнае».

Расійскае інтэрнэт-выданне gazeta.ru пра вынікі маскоўскіх перамоваў дала іранічны загаловак «Лукашэнка сабраў перадвыбарчую даніну». Сайт лічыць, што пагадненні былі больш патрэбны расійскаму кіраўніцтву як піяр-крокі перад выбарамі, чым Беларусі.

Рэдактар часопіса «Расія ў глабальнай палітыцы» Фёдар Лук'янаў зазначае, што новы кантракт на газ у значнай ступені разлічаны на Украіну, якую Крэмль марыць пабачыць у Еўразійскім саюзе.

«Украіне паказваюць, што калі паводзіць сябе правільна, то цана, якую гатовая плаціць Расія, дастаткова вялікая», — кажа Лук'янаў. Падтрымлівае гэтыя тэзы і газета «Коммерсант», які лічыць, што Украіне паказалі прыклад.

Трохі іншага меркавання заходнія аналітыкі, якія бачаць у пагадненнях паразу Лукашэнкі. «Купля «Белтрансгаза» азначае важную перамогу Крамля, які паспяхова карыстаецца сваёй роляй пастаўшчыка энергарэсурсаў з мэтай умацавання ўплыву на тэрыторыі былога Савецкага Саюза», — піша газета дзелавых колаў The Wall Street Journal.

У добрых адносінах Беларусі і Расіі сёння зацікаўленае кіраўніцтва абедзвюх краін. Лукашэнка пераcвараны праз жорсткія рэпрэсіі з Еўрасаюзам, у Расіі ж не хочуць ніякага негатыву перад сакавіцкім выбарамі.

Тым не менш, адносіны з усходняй суседкай апошнія гады заўсёды былі скачкападобнымі. За публічнымі пацалункамі і абдымкамі ішлі малочныя войны і «Хросныя бацькі». Наколькі трывалай будзе гэтая новая любоў?

**ЗП**



Пуцін і Мядзведзеў доўга ўзгаднялі, што ж паабяцаць Лукашэнку.

# Былы памочнік Лукашэнкі: «Гэта не эканоміка, а самаедства»

Пятро Капітула рэзка **крытыкуе эканамічную палітыку** ў краіне.

Экс-памочнік беларускага кіраўніка па эканоміцы Пятро Капітула лічыць, што ў 2012 годзе ВУП Беларусі не вырасце, а ўпадзе. У інтэрв'ю, падставай для якога стала крытыка Аляксандра Лукашэнкі ў адрас навукоўцаў, «Белгазета» пацікавілася ў былога дарадцы кіраўніка краіны, прафесара эканомікі Пятра Капітулы, ці гатовы ён паспрачацца з Лукашэнкам.

— Гатовы. Напрыклад, з тым, што нехта падказаў Аляксандру Рыгоравічу, што ў наступным годзе будзе рост ВУП на ўзроўні 5%. На маю думку, будзе мінус. Калі на кожны працэнт прыросту ВУП патрабуецца эмісійных крэдытных сродкаў у два разы больш, чым аб'ём росту, то гэта не эканоміка, а самаедства.

Сёлета аднойчы абвясцілі аб дасягненні дадатнага сальда замежнага гандлю. А што за ім? Адміністрацыйныя абмежаванні на куплю валюты. Колькі збанкрутавала кампаній, якія плацілі зарплату, падаткі, пошліны ў казну!

Нядаўна прачытаў, што за апошнія 2–3 гады з краіны штогод выязджала 150 тыс. самых высокакваліфікаваных спецыялістаў. Гэта ўсё вынік макраэканамічнай нестабільнасці. З кім пасля гэтага рабіць навуку? З кім рабіць эканоміку?

**МБ**

# Ад прадпрыемстваў патрабуюць забараніць доступ да Хартыі-97

Але праз тэхнічныя збоі можа не адкрывацца большасць **замежных сайтаў**.

З дня на дзень «Белтэлекам» рыхтуецца заблакаваць доступ да 35 сайтаў. Сярод іх ёсць як парнаграфічныя, так і тыя, што прапануюць мерказванне, адрознае ад дзяржаўнай прапаганды. Гэта «Хартыя-97» (charter97.org), «Беларускі партызан» (belaruspartizan.org), а таксама віртуальны абменнік Пракаповіч (prokopovi.ch) і нават блог Яўгена Ліпковіча (lipkovich.livejournal.com).

Напярэдадні дзяржаўныя арганізацыі атрымалі ліст, згодна з якім «з мэтай выканання ўказа № 60» яны былі абавязаныя змяніць настройкі інтэрнэту. У адваротным выпадку «Белтэлекам» папярэджваў, што не будзе несці адказнасць «за няякаснае прадастаўленне паслугаў доступу ў сетку інтэрнэт альбо поўную яго адсутнасць».

### Кот у мяшку

«Белтэлекам» прасіў выставіць новыя адрасы DNS-сервераў нібыта для ўдасканалення працы. DNS — гэта камп'ютарная сістэма для інфармацыі аб назвах і адрасах сайтаў. Калі карыстальнік спрабуе, напрыклад, адкрыць старонку «Нашай Нівы» (http://nn.by), то серверы «Белтэлекама» звяраюць IP-адрас сайта са сваёй базай, удакладняюць, што доступ да старонкі не забаронены, і адкрываюць яе.

Цяпер, калі дзяржаўныя чыноўнікі паспрабуюць адкрыць сайт «Хартыі-97», сістэма блакавання нібыта павінна не пусціць на старонку. Цалкам імаверна, што да цэнзуры далучацца і іншыя правайдары, апроч «Белтэлекама». Ці можна абысці забарону і ці варта паслухмяна змяняць настройкі інтэрнэту?

**Чыя ініцыятыва?**

У сваёй дзейнасці правайдар кіруецца ўказам кіраўніка дзяржавы № 60 «Аб захадах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегменту сеткі Інтэрнэт»




**DNS-серверы Google**

8.8.8.8

8.8.4.4

**Запасная «Хартыя»**

Дзяржава заблакавала адрас charter97.org, але люстэркавую старонку charter97.eu можна чытаць хоць у Радзе міністраў.

**Сотні Ліпковічаў**

Пакольki блог Яўгена Ліпковіча мае аднолькавы ір-адрас яшчэ з некалькімі сотнямі інтэрнэт-дзённікаў, яны таксама былі вымушана заблакаваныя.

PHOTO.BYMEDIA.NET

Заходзіць з працы на папулярныя сайты стане складаней.

### Google замест «Белтэлекама»

На дадзены момант парламент Беларусі рыхтуе законапраект, які б прадугледжваў адміністратыўную адказнасць за прагляд забароненых сайтаў. Але пакуль што атрымаць пакаранне за прагляд «Беларускага партызана» на працоўным месцы немагчыма.

Для таго, каб камп'ютар пры адкрыцці сайта не звяртаўся да базы «Белтэлекама», можна выставіць DNS незалежных пастаўшчыкоў, напрыклад, надзейныя DNS ад Google. Каб гэта зрабіць, трэба зайсці ў настройкі свайго злучэння, націснуць «Уласцівасці», «Пратакол Інтэрнэту TCP/IP-4» і ў акне «Выкарыстоўваць наступныя адрасы DNS-сервераў» надрукаваць настройкі ад кампаніі Google. У такім выпадку ўсе сайты мусяць адкрывацца без абмежаванняў. Прынамсі да таго часу, пакуль Беларусь не заблакуе працу Google, што выкліча міжнародны скандал.

### Выбар паміж бясплатным радыё і забароненымі сайтамі

У выкарыстанні альтэрнатыўных настроек ёсць як свае плюсы, так і істотныя мінусы. Сярод перавагаў застанецца праца забароненых сайтаў і больш хуткі доступ да заходніх інтэрнэт-старонак. Аднак варта ўлічваць, большасць правайдараў Беларусі прадастаўляюць бясплатны доступ да беларускіх рэсурсаў (у тым ліку і да сайта «Нашай Нівы»), радыёстанцый і сэрвісаў закачкі. Пры выкарыстанні іншых настроек трафік стане платным, што можа моцна ўдарыць па кашальку. Падругое, можа замарудзіцца праца беларускіх і расійскіх сайтаў, бо доступ да іх будзе адбывацца праз заходнія серверы. Зрэшты, гарантаваць стабільную працу інтэрнэту «Белтэлекам» насамрэч не зможа.

Хоць апошнія дні падрыхтоўкі да працы інтэрнэту па новых правілах і так былі азмрочаны шматлікімі тэхнічнымі збоямі. Адміністратары, якія ўсё ж згаджаліся перайсці на новыя настройкі, сутыкаліся з тым, што пераставалі працаваць ледзь не ўсе заходнія сайты, у тым ліку і сацыяльныя сеткі.

**Ягор Марціновіч**

# Чыноўнік-русафіл звольнены ў сувязі са сканчэннем кантракта

Андрэй Герашчанка быў **начальнікам аддзела па справах моладзі** адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Віцебска.

«Справа Герашчанкі» пачалася пасля таго, як чыноўнік даў інтэрв'ю расейскаму парталу «Материк», дзе разважаў пра штучнасць беларускай мовы, культуры і адмаўляў існаванне беларускай нацыі, а Беларусь назваў «ещё одним русским государством».

Падобныя выказванні дзяржаўнага служачага выклікалі рэзкую рэакцыю кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Макея і старшыні афіцыёзнага саюза пісьменнікаў, сябрам якого з'яўляецца Герашчанка, Мікалая Чаргінца, які заявіў, што «мы будзем з такімі расправляцца». У выніку віцебскі чыноўнік быў адзіным на апошнім з'ездзе праўладнага саюза пісьменнікаў, хто прагаласаваў супраць пераабрання былога міліцэйскага генерала старшынёй.

Андрэй Герашчанка заяўляў, што ў лютым яму параілі звольніцца, аднак па сваім жаданні ён сыходзіць не стаў. Цяпер падобна на тое, што адэпту Вялікай Расіі прыйдзецца пашукаць новае працоўнае месца замест утульнага чыноўніцкага крэсла.

23 лістапада ён атрымаў афіцыйнае уведамленне, што адміністрацыя Кастрычніцкага раёна спыняе з ім працоўныя стасункі з 26 снежня ў сувязі са сканчэннем тэрміну кантракта.

**«Народныя навіны Віцебска»**



# Паўлу Шарамету — 40 гадоў

28 лістапада споўнілася 40 гадоў журналісту Паўлу Шарамету. Талент прабіваецца змоладу: ён пачынаў сваю працу зусім маладым на тады яшчэ напаўсвабодным БТ. Пасля рэдагаваў «Белорусскую деловую газету». Калі яго як карэспандэнта расійскага тэлеканала ОРТ з Беларусі выціснулі ў Маскву, зрабіў яскравую кар'еру на расійскім ТБ.

Але не застаўся ў «расійскай сферы», вярнуўся ў «Беларусь без межаў», стварыўшы сайт «Беларускі партызан», які стаў адной з самых папулярных інтэрнэт-газет Беларусі.

Выданне выклікае зубоўны скрыгат у лукашэнкаўцаў, яны спрабавалі задушыць яго ператрусамі, пасля распачалі кампанію цкавання ў лукашэнкаўскіх СМІ, але гэта толькі дадало «Партызану» аўтараў і вядомасці.




**Мікола Бугай**

**Дасягненне**

# Беларусь і М'янма дамовіліся пра адмену віз для дыпламатаў

Лукашэнка ўпаўнаважыў на правя-дзенне перамоў і падпісанне дакумента намесніка міністра замежных спраў Сяргея Алейніка.

М'янма (Бірма) — адна з найгоршых дэспатый у свеце.

**Цытата**

# Дарафееў: Працаваць на БТ – вось што злачынства

Былы вядучы АНТ Сяргей Дарафееў **пра сваю працу** ва Украіне, а таксама пра беларускія рэаліі.

«Сказаць, што ў Кіеве я шчаслівы, а ў Мінску быў нешчаслівы — гэта глыбокая памылка. Але факт, што ў Кіеве я маю магчымасць рабіць для Беларусі больш, чым мог бы зрабіць, знаходзячыся ў Мінску. Нарэшце, самае важнае: працаваць цяпер на Беларускім тэлебачанні — вось што злачынства, а не ўзяць і з'ехаць. Што, усміхацца ў кадры і чытаць самі ведаеце што? Таму, калі казаць не толькі пра тэлебачанне, але і ўвогуле пра ўсіх беларусаў (а я часта думаю пра гэта апошнім часам), мяне здзіўляе псеўдапатрыятычнасць некаторых нашых людзей. О'кей, давайце тады крытыкаваць тых журналістаў, пісьменнікаў, музыкаў, якія ў свой час не вытрымалі і з'ехалі з СССР. Ды яны з-за мяжы для сваёй зямлі зрабілі нашмат больш. З'ехалі, а потым з яшчэ большымі ведамі, здольнасцямі, з вопытам вярнуліся і ўсё аддалі сваім людзям, сваёй дзяржаве».

**Паводле радыё «Свабода»**



# Лукашэнка выбраў на наступны год інфляцыйны рост

Гэта можа прывесці да 50-працэнтавай дэвальвацыі ў наступным годзе.

Строгай эканоміі не будзе, стаіць задача росту ВУП на 5–5,5%, заявіў Лукашэнка.

Задачу расціць ВУП ён паставіў 22 лістапада на нарадзе, дзе разглядаліся праекты дакументаў, паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы. Падводзячы вынікі, Лукашэнка падкрэсліў, што за аснову бяруцца праекты, прадстаўленыя прэм'ер-міністрам, з ВУП у 105–105,5%. «І дапрацоўвайце гэтыя дакументы. Дашліфуйце, зрабіце як трэба, — сказаў кіраўнік дзяржавы. — І зыходзіць з 5–5,5% росту ВУП. Прэм'ер-міністр ведае мае патрабаванні — лічыце. Хто не згодны і не можа — калі ласка, мы знойдзем іншую працу.

Але пасля таго, як я пастаўлю свой подпіс пад гэтым дакументам, усе бегаюць па краіне і кажуць: гэта рэальна, гэта выгада, наперад, мабілізацыя. А не балбатня ў сродках масавай інфармацыі. Крый божа мне толькі паведамяць адваротнае».

Так ён намякнуў на публічную крытыку ўрадам прапановаў памочніка Лукашэнкі па эканоміцы Ткачова («НН» №42).

«Калі мы будзем даваць такі ВУП пры такой расхлябанасці, безаглядная па імпартазамяшчэнні, вядома, у нас будуць праблемы з валютай», — прызнаў Лукашэнка.

Пры інфляцыйным росце ВУП на 5% інфляцыя і дэвальвацыя рубля за 2012 год могуць скласці каля 50%, мяркуюць незалежныя эканамісты. Сам урад абяцае ўтрымаць яе ў межах 19–22%. Аднак такія задачы могуць аказацца нерэалізабельнымі. Прэм'ер-міністр Мясніковіч паабяцаў асноўныя інвестыцыі кіраваць у машыны, абсталяванне і тэхналогіі, а не будаўніцтва. Старшыня Нацбанка Ермакова таксама заявіла пра намер спыніць эмісійнае крэдытаванне эканомікі. Тым не менш, забеспячэнне такіх тэмпаў росту на фоне нядаўняй дэвальвацыі непазбежна прывядзе да новага перагрэву эканомікі. Льготныя цэны на газ гэтаму таксама паспрыяюць.

**Мікола Бугай**



**Нацыянальны банк Беларусі канстатуе захаванне высокай залежнасці дзяржбанкаў ад яго кароткатэрміновых рэсурсаў і падкрэслівае эмісійны характар такой падтрымкі, што пагражае стабільнасці беларускага рубля. На здымку намеснік старшыні Нацбанка Мікалай Лузгін (справа) і новапрызначаны намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Тур.**

## Газавы «вечны мір»

Цана расійскага газу для Беларусі зменшыцца ўдвая.

25 лістапада стаў вырашальным днём у газавай інтэграцыі Беларусі і Расіі. У гэты дзень кіраўніцтва краін на вельмі тэатральнай цырымоніі ў падмаскоўнай рэзідэнцыі Горкі падпісала шэраг важных дакументаў, якія будуць вызначаць эканамічны стан Беларусі на бліжэйшы час. Аляксандр Лукашэнка атрымаў істотную даляравую падпітку, каб працягнуць эмісійнае развіццё эканомікі краіны.

Кантракт на пастаўку газу для Беларусі быў заключаны на выгадн ых для краіны ўмовах. У 2012 годзе тысяча кубаметраў будзе каштаваць $165,6. «Гэта сур'ёзная зніжка, якая дазволіць пакінуць у беларускай эканоміцы $2 мільярды», — заявіў прэм'ер-міністр Расіі Уладзімір Пуцін. У 2013—2014 за аснову будзе брацца ўнутрырасійская цана, да якой дадасца толькі кошт транспартавання і захоўвання газу.




У золатавалютныя рэзервы пакладуць яшчэ і $2,5 мільярда, атрыманыя за кошт продажу апошніх 50% акцый «Белтрансгаза». Расійцы атрымалі стратэгічны трубапровад і змогуць дыктаваць нацэнку для беларускіх спажыўцоў. «Газпрам» прагне кантролю над такімі газаправодамі ў еўрапейскіх краінах. Еўракамісія нават прыняла спецыяльную антыманапольную норму, згодна з якой вытворца газу не мае права быць уласнікам газаразмеркавальных кампаній.

Страта газатранспартнай сістэмы ставіць крыж на магчымых альтэрнатыўных праектах пастаўкі газу ў Беларусь. Размовы аб супрацоўніцтве з Літвой і Польшчай у гэтым накірунку вяліся, аднак цяпер рэалізацыя праектаў магчымая толькі з дазволу Расіі ці пасля будаўніцтва альтэрнатыўных трубапроводаў.

**Ягор Марціновіч**

# Новая з'ява: абутак у растэрміноўку

Сетка мінскіх крамаў зрэагавала на складаную эканамічную сітуацыю.

Новая з'ява, выкліканая інфляцыяй і зніжэннем прыбыткаў насельніцтва: абутковая крама «Мегатоп» прапануе набыць тавары ў растэрміноўку на 6 месяцаў пад 0,01%.

Зімовыя боты, на якія трэба было раней выдаткаваць мільён рублёў, за месяц абыдуцца купцу ў 166 тысяч. Як паведаміла супрацоўніца крамы, ахвотных хапае – каля століка, дзе афармляюцца дамовы, заўсёды нехта ёсць.

Максімальная сума куплі ў растэрміноўку – 3 мільёны рублёў. Цэны на абутак у краме такія: зімовыя боты з натуральнай скуры і футра — ад 700 тысяч да 1,2 мільёна рублёў. Натуральная скура і штучнае футра — каля 550 тысяч. Боты са штучнай скуры і футра можна набыць за 400 тысяч.

Уцепленыя валёнкі каштуюць 650–710 тысяч рублёў.

**Аксана Рудовіч**

## Далі больш, чым прасілі

Расія пазычыць $10 мільярдаў на будаўніцтва Астравецкай АЭС.

Пасяджэнне Вышэйшай дзяржрады так званай «саюзнай дзяржавы» прынесла нашай краіне яшчэ адну дамову. Расія пагадзілася даць грошы на будаўніцтва беларускай АЭС, прычым здзіўленне выклікала перадусім сума пазыкі — ажно $10 мільярдаў!

Нагадаем, што кошт усяго будаўніцтва — разам з інфраструктурай — ацэньваўся ў $9 мільярдаў. Лукашэнка не рызыкаваў прасіць больш, гаворка вялася пра $6-7 мільярдаў расійскага крэдыту. Усю інфраструктуру беларусы былі гатовыя будаваць за свой кошт. Гэтыя грошы былі нават закладзеныя ў праект бюджэту на 2012 год. Як выявілася цяпер, Расія расшчодрылася на ўсю АЭС, ад першага да апошняга цвіка.

**ЯМ**

**Вялікія пазычанні Беларусі ў Расіі ў 2011-м**

Крэдыт ЕўрАзЭС — **$2,2 мільярда** (атрыманы першы транш, $800 мільёнаў; вярнуць давядзецца на працягу дзесяці гадоў).

Крэдыт «Сбербанка» — **$1 мільярд** (пад заклад 51% акцый «Нафтана»).

Крэдыт на будаўніцтва АЭС — **$10 мільярдаў** (грошы будуць аддаваць на працягу 5 гадоў пасля заканчэння будаўніцтва, але не пазней за 2021 год).

## Урад мае ўвесці нормы на электрычнасць

Больш за 107 кВт/г на чалавека ў месяц трэ будзе аплачваць па павышаных тарыфах.

Пакуль гэтая ідэя знаходзіцца на стадыі абмеркавання. Дакладныя нарматывы не вызначаныя.

Сярэдняя беларуская сям'я з трох чалавек траціць каля 200 кВт/г у месяц. Такім чынам, новы нарматыў зачэпіць толькі самых марнатраўных.

Мяркуецца, што ў кватэрах з электраплітамі нормы будуць вышэйшымі.

Як вядома, у Беларусі аднядаўна ўвялі нормы на ваду: не больш за 4,2 куба вады на чалавека за месяц.

**Сяргей Гезгала**

## Сцісла

### Заробкі ў будаўніцтве знізіліся

У кастрычніку 2011 года сярэдні заробак у краіне (у рублях) вырас на 2,6% пры афіцыйнай інфляцыі 8,2%. Асабліва спад заробкаў адбыўся ў будаўнікоў, дзе сярэдняя зарплата ў кастрычніку склала 2,474 млн — усяго 73,3% ад рэальнай зарплаты ў кастрычніку 2010 года.

### Перавытворчасць тэлевізараў

У студзені—кастрычніку вытворчасць тэлевізараў у Беларусі знізілася на 16,2% адносна такога ж перыяду 2010-га і склала 322,2 тысячы. Паводле звестак Белстата, вытворчасць аўтаматычных тэлефонных станцый знізілася на 70,7% і склала 58 тысяч нумароў. Вытворчасць DVD-прайгравальнікаў знізілася на 42,7% да 15316.

### Вялікі кантракт на БелАЗы

БелАЗ у бліжэйшыя дзесяць гадоў паставіць расійскаму ААТ «Мечал» каля 900 кар'ерных самазвалаў вялікай грузападымальнасці. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар БелАЗа Пятро Пархомчык. Агульны кошт кантракта складзе каля $1 мільярда. «Штогод мы будзем пастаўляць 80–90 самазвалаў на $100–110 мільёнаў», — удакладніў ён дэталі падпісанай дамовы. Па яго словах, бакі створаць сумеснае прадпрыемства для сэрвіснага суправаджэння самазвалаў, якія выкарыстоўваюцца ў засваенні Эльгінскага радовішча ў Якуціі.

### Сяло АЭПу не рада

Субсідыі сельскай гаспадарцы плануецца скараціць з цяперашніх 16 да 10% ад валавога кошту прадукцыі. Пра гэта паведаміў віцэ-прэм'ер Румас, выступаючы ў палаце прадстаўнікоў. Справа ў тым, што ў рамках пагадненняў аб Адзінай эканамічнай прасторы краіна абавязалася знізіць субсідыі вытворцам сельгаспрадукцыі да 10% ад кошту выробленай імі прадукцыі да 2017 года. Румас прызнаў, што цяпер тыя субсідыі маюць найчасцей прыхаваны характар.

### Пластыкаваны McDonalds's

Сетка хуткага харчавання будзе прымаць пластыкавыя карткі, каб выканаць патрабаванні беларускага заканадаўства. Кожны гандлёвы аб'ект з выручкай больш за 1,4 мільёна рублёў за дзень мусіць быць абсталяваны тэрміналам.

**ЯМ**

# Прафесія — кантрабандыст

Што **возяць з Беларусі ў Польшчу** і наадварот памежныя кантрабандысты.

*Тут на памежжы*
*Каменныя вежы,*
*Жалезныя дзверы, замкі і засовы,*
*Таемныя пасткі,*
*Падземныя сховы,*
*Каменныя маскі на тварах аховы.*
***(«Народны альбом»)***

Рамантыку кантрабандыстаў яшчэ ў 30-я гады XX стагоддзя апісаў Сяргей Пясэцкі, вядомы польска-беларускі пісьменнік, ураджэнец Ляхавічаў. Ён і сам не раз нелегальна хадзіў праз мяжу...

Сёння дзяржаўная мяжа Беларусі знаходзіцца далёка на захад ад той, даваеннай. Але кантрабандысты не зніклі. Паміж Брэстам і яго колішнім прыгарадам Цярэспалем, а таксама між Гроднам і Кузніцай-Беластоцкай курсуюць цягнікі, што злучаюць Беларусь і Польшчу на невялікіх адрэзках старой чыгункі, збудаванай яшчэ за Пілсудскім.

### Гарэлка і папяросы

Памежныя маршруты вельмі папулярныя сярод беларусаў. Мясцовыя ездзяць у недалёкія ад мяжы Беласток і Белую-Падляскую на закупы. Студэнты, што вучацца ў Польшчы, абіраюць гэты шлях з мноствам перасадак як самы танны. Не дзіва — цяпер з Мінска ў Варшаву самалётам дабрацца не нашмат даражэй, чым простым цягнікам.

Гродзенцы і берасцейцы (ды не толькі) актыўна карыстаюцца тым, што ў Еўропе гарэлка ды цыгарэты каштуюць даражэй, чым у Беларусі.

Блок цыгарэт Viceroy ў нас каштуе 38—45 тысяч рублёў, у Польшчы — да 50 злотых (каля 132 000 па курсе на 4 лістапада). Пляшка гарэлкі тут каштуе да 20 тысяч, там — мінімум 106 000 руб.

Ужо бачацца мільённыя прыбыткі і рэкордныя 81% рэнтабельнасці? Дзе там! Легальна па той бок мяжы можна перавесці толькі 1 блок цыгарэт і 1 л гарэлкі. Але шмат хто жыве ўжо не адзін год узгаданай розніцай цэнаў. Па беларускіх мерках людзі зарабляюць прыстойныя грошы, утрымліваюць сем'і. Часта кантрабанда — адзіная крыніца даходаў.

### Свабодная краіна — вывозь, колькі хочаш

Студэнтка Т. з Гродна. Яна вучыцца ў Беластоку, год таму атрымала ступень бакалаўра. Дадому ездзіць кожныя выходныя. Кажа, што бацькі не працуюць. Бацьку скарацілі, маці — інвалід. Возячы ў Польшчу цыгарэты, Т. фактычна ўтрымлівае сям'ю. У сярэднім за паездку правозіць 6-7 блокаў (560—620 тысяч).

Праца рызыкоўная. Мы гаварылі з ёй летась — тады яшчэ ўсё было іначай. Беларуская памежніца на



Студэнтка Т. бярэ з сабой у цягнік шрубакрут і доўгую спадніцу, каб хаваць цыгарэты.

**Русцы пшыехалі! Вудка, папяросы маш?** »

маё ціхае пытанне, колькі ўвогуле можна вывозіць цыгарэт, і ці не турбуе нашых памежнікаў тое, што беларусы вязуць да суседзяў нелегальны тавар, гучна і раздражнёна адказала: «У нас свабодная краіна, хто колькі чаго хоча — столькі і вывозіць».

### Халява скончылася

Свабодная краіна скончылася, цяпер нельга везці цыгарэты ў неабмежаванай колькасці. Звычайна беларусы хавалі ад палякаў пачкі цыгарэт у спецыяльныя панчохі, што ўкладалі ў нагавіцы, пад спадніцамі, у жаночых сумачках, якія не абшукваюць на мяжы.

Самы просты спосаб — схаваць іх непасрэдна ў цягніку. Таму памежныя цягнікі выглядалі неахайна: раскручаныя шрубы, абадраная абшыўка. Затое — шмат месца на папяросы. Т. мае з сабой шрубакрут. Па-майстэрску адкручвае шрубы на спецыяльных скрынях пад сядзеннем, хавае туды свой груз ды робіць як было. Перапрануўшыся ў доўгую сукенку, рэшту цыгарэт прыклейвае скотчам да ног. Цягнік рушыць.

Цяпер, у сувязі з абмежаваннямі, беларускія памежнікі вымушаныя правяраць, хто вывозіць з Беларусі цыгарэты і ў якіх колькасцях. «Нашы лепш ведаюць хітрыкі», — наракае пажылы мужчына, засоўваючы цыгарэты ў другое дно торбы. Крызіс у Беларусі зменшыў нелегальны зварот цыгарэт, але не знішчыў яго.

Але вернемся да Т. Да Кузніцы 20 хвілін дарогі. Дзяўчына паспяхова праходзіць кантроль. А праз 5 хвілін вяртаецца па цыгарэты. Каля вакзала ўжо чакаюць палякі: «Русцы пшыехалі, вудка, папяросы маш?» Т. з палёгкай пазбаўляецца ад тавару ды хуценька едзе ў Беласток.

У Брэсце расказваюць гісторыю, як адна кабета цыгарэты з вокнаў цягніка проста ў Буг скідвала, а мясцовыя ўнізе падбіралі.

### «Мне шкада беларусаў»

Польскія памежнікі досыць лаяльныя да беларусаў. У Гродне — амаль без праблем. У Брэсце раз-пораз канфіскоўваюць «груз». Штраф — 300 злотых. Як кажуць бывалыя, страта акупляецца за адну паездку, таму не вельмі страшна. Войтэк, памежнік з Кузніцы, працуе нядаўна. Беларусаў шкадуе: «Гэта ж у асноўным пажылыя жанчыны, што я ім буду тут скандал рабіць, калі яны на 30 год старэйшыя за мяне... Я ж таксама з усходу, з Бельска, — дадае: — А на ўсходзе бедна».

А з Польшчы беларусы вязуць абутак, вопратку, прадукты, тэхніку. У суседзяў усё танней. І вялікі выбар. На мяжы шмат хто актыўна дзеліцца са знаёмымі радасцю ад набытага.

Пасля мытных працэдур набытае ў Польшчы трэба неяк правезці па радзіму. Новая вопратка апранаецца ў некалькі пластоў. На маіх вачах жанчына прымусіла маленькую дачку апрануць адразу 5 пар панчох. Новы абутак крыху аббіваюць аб зямлю, прысыпаюць пылам.

### «Я ж для дачкі»

Што ў Брэсце, што ў Гродне беларускія мытнікі дакладна спраўджваюць змесціва торбаў грамадзян. Разгортваецца кожны пакунак, спраўджваецца кожная рэч. «Новая?» — пытаюцца мытнікі, нібы выбіраюць падарунак сваім родным. Не дай бог лішняя пара абутку трапіць у нашую стабільную дзяржаву для народа.

Што цікава, беларусы на ўладу не наракаюць. Затое пасля праходу польскай мяжы ўголас расказваюць, як «трасуць» палякі, якія ў іх непрыемныя памежнікі. У Беларусі быццам усё як мае быць. Людзі расшпіляюць торбы, разгортваюць рэчы: «А гэта ж я для дачкі, а во гэта для нявесткі». І таропка пакуюцца назад, шчаслівыя, што мытнік быў у гуморы і ласкава дазволіў правезці на спадніцу больш, чым дазволена Законам РБ.

### Хто цягніком, а хто машынай

З'ява кантрабанды вельмі пашыраная на нашай заходняй мяжы. Хто цягніком, а хто машынай ці аўтобусам. Хто цыгарэты, абутак або вопратку, а хто бензін.

Калісьці ў міжваенныя часы памежнае мястэчка Ракаў было сімвалам «нелегальнага багацця» — кантрабанды, шалёных грошай, падпольнага бізнэсу. Кажуць, шыкоўных рэстаранаў і начнога жыцця тут было, як у Варшаве.

Можа, варта напісаць новы раман пра нашых сучаснікаў, якія гэтаксама, як і 60 год таму, зарабляюць на тым, што Беларусь жыве на мяжы. Дзе ты, Пясэцкі?

**Яўген Грыневіч**



# У Карэліцкім раёне былыя крамы... закопваюць у зямлю

Адну з іх хацеў набыць мясцовы **прадпрымальнік**, але **не пацягнуў**.

У некалькіх вёсках Карэліцкага раёна (Гродзенская вобласць) пабурылі і закапалі ў зямлю будынкі былых крамаў, якія не працавалі ўжо больш за пяць гадоў. Пра гэта ў Рэдакцыю «НН» паведаміў адзін з чытачоў.

«Мы з сябрам хадзілі на паляванне. Праходзілі праз Браносава і пабачылі на месцы былой крамы насып зямлі», — расказвае ён. Такая ж карціна ў вёсцы Маласельцы. Потым, па яго словах, каля іх спыніўся трактар будаўнічай арганізацыі з Мінска. Трактарыст спытаў у іх, як праехаць у вёскі Быковічы і Новае Сяло. Там ён таксама мусіў разбурыць і закапаць у зямлю будынкі пустуючых магазінаў.

Нашага чытача ў гэтай гісторыі зачапіла тое, што старыя будынкі не далі разабраць людзям, а проста закапалі ў зямлю. У тым жа Браносаве мясцовы прадпрымальнік хацеў набыць былую краму. Ён займаецца вырабам шклопакетаў, дзвярэй, брамаў і агароджаў. Для вытворчасці арандуе памяшканні былога вясковага клуба. Магазін быў праз дарогу ад цэха. «Хацеў купіць, але задорага прасілі — да крызісу гэта было каля 6 мільёнаў рублёў», — кажа прадпрымальнік Мікалай. Па яго словах, будынкі бурылі нават ноччу — нанятыя рабочыя мусілі справіцца ў сціслыя тэрміны.

У Карэліцкім раённым спажывецкім таварыстве нам патлумачылі, што гаворка ідзе пра будынкі, якія пустуюць больш за пяць гадоў, а некаторыя і ўсе дзесяць. «За гэты час у іх павымалі вокны і дзверы. Цяпер іх зносяць згодна з праграмай навядзення парадку на зямлі», — расказалі ў таварыстве. Там запэўнілі, што ў кожным выпадку мясцовым жыхарам прапаноўвалі разабраць будынкі на свае патрэбы. У некаторых вёсках так і зрабілі. А ў вышэйпамянёных паселішчах ахвочых разабраць на цэглу былыя крамы не знайшлося.

**Сямён Печанко**

# Аблава ў Крупках: суд стаў на бок затрыманых

**Каля двух дзясяткаў чалавек былі затрыманыя ў Крупках з 18 па 20 лістапада ў рамках аперацыі «Правапарадак».**

На іх склалі пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях. Часам яны былі беспадстаўнымі, і людзей дарэмна пратрымалі амаль трое сутак у ізалятары.

Справу 25-гадовага Руслана Вілюхі разглядала старшыня суда Крупскага раёна Любоў Сівакова. На Руслана склалі два пратаколы. Падставамі сталі рапарты байцоў палка спецназа Мінскага аблвыканкама, якія праводзілі «прафілактычную адпрацоўку» Крупак.

Па іх сведчаннях, Вілюха ў краме «Ля гасцінца» «ў прысутнасці супрацоўнікаў міліцыі паводзіў сябе абуральна, чапляўся да грамадзян, перашкаджаў рабіць закупы, гучна размаўляў, ужываючы нецэнзурную лаянку, грэбліва выказваўся на адрас супрацоўнікаў міліцыі».

Іншы баец спецназа сцвярджаў, што Руслан «не падпарадкоўваўся патрабаванню прайсці ў службовы аўтамабіль для далейшага разгляду і праходжання медагляду, упіраўся, хапаўся за староннія прадметы і форменную вопратку».

У судзе затрыманы па-іншаму расказаў пра тыя падзеі. Ён быў у краме, калі туды зайшлі спецназаўцы. Наведніца, выходзячы, ненаўмысна зачапіла міліцыянта. Той зрабіў грубую заўвагу. Умяшаўся і Вілюха (сам выпускнік Акадэміі МУС, які не працуе па спецыяльнасці). У выніку яго з сябрам пасадзілі ў аўтазак. Там маладых людзей некалькі разоў стукнулі дубінкамі.

А пасля быў суд. Магазіншчыца на ім засведчыла, што ніхто ў яе прысутнасці не лаяўся. Суддзя Сівакова паверыла. І пастанавіла, што вытворчасць па справе ў дачыненні да маладога чалавека «падлягае спыненню за адсутнасцю складу адміністрацыйнага правапарушэння». Падчас затрымання Руслан Вілюха быў нападпітку. Аднак суддзя зазначыла, што «факт знаходжання ў грамадскім месцы ў стане алкагольнага ап'янення не ўтварае складу адміністрацыйнага парушэння».

Суд апраўдаў і яшчэ аднаго затрыманага, ліванца Фаруха Кабалана, уласніка мясцовай кавярні. У той жа час суд прызнаў некаторых іншых затрыманых вінаватымі: у іх выпадку не было сведкаў, якія маглі б засведчыць, што яны не лаяліся і не парушалі парадку.

Многія жыхары Крупак лічаць, што ў горадзе адбылася дэманстрацыя сілы. На думку людзей, мінскаму спецназу давялі план па затрыманнях, які тыя і стараліся выканаць вядомымі ім метадамі.

Жыхар Крупак, які наведаў некалькі судовых пасяджэнняў, сказаў пра прынцыповасць суддзі Сіваковай. Яна адмовілася выносіць прысуды, пакуль не з'явяцца сведкі правапарушэнняў — спецназаўцы. І ў тых выпадках, калі пры затрыманні людзі не падпісвалі пратаколы альбо пазначалі ў іх, што не згодныя з затрыманнем, суддзя не выносіла абвінаваўчыя прысуды.



Руслану Вілюху патрапілася прынцыповая суддзя.

ZAPRAUDU.INFO

Міліцыянты ж праз два дні пасля падзей у Крупках масавыя затрыманні назвалі «нахабнай хлуснёй». УУС Мінскай вобласці распаўсюдзіла афіцыйную заяву. Згодна з ёй, «з мэтай стабілізацыі крымінагеннай абстаноўкі» з 9.00 18 лістапада да 9.00 21 лістапада на тэрыторыі Крупскага раёна праводзілася спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Правапарадак». І 18 лістапада быў затрыманы нецвярозы малады чалавек, які спрабаваў прайсці на дыскатэку і пагражаў жанчыне, якая яго не пускала. А ў кавярні, калі туды зайшлі спецназаўцы, пачалася бойка. У выніку ўчастковы атрымаў удар нагой у твар, гаворыцца ў заяве.

**Мікола Бугай, Кастусь Матушыч**



**Былыя палітвязні Ілля Васілевіч (злева) і Фёдар Мірзаянаў выехалі ў Польшчу. Пасля курсаў польскай мовы маладыя людзі працягнуць вучобу ў варшаўскіх універсітэтах. Фёдар па спецыяльнасці «міжнародная эканоміка», Ілля — «міжнародныя адносіны».**

## Сцісла

### Саннікаў — у Віцебску

Жонцы Андрэя Саннікава Ірыне Халіп пацвердзілі, што мужа даставілі ў калонію «Віцьба-3». 24 лістапада адвакат Андрэй Варвашэвіч паехаў у Віцебск, каб сустрэцца са сваім падабаронным. Але яго не дапусцілі да палітыка. Саннікава перавялі з калоніі з Бабруйска. Падстава — заява адміністрацыі аб пагрозе жыццю палітыка.

### Аўтуховіч абвясціў галадоўку

Па інфармацыі праваабаронцаў, 16 лістапада Мікалая Аўтуховіча змясцілі ў штрафны ізалятар за тое, што ён не ідзе на супрацоўніцтва з кіраўніцтвам папраўчай установы і дапамагае іншым асуджаным змагацца за свае правы. У знак пратэсту асуджаны ваўкавыскі прадпрымальнік абвясціў галадоўку.

### Каваленку будуць судзіць

Актывіста КХП-БНФ з Віцебска Сяргея Каваленку будуць судзіць за брыдкаслоўе. Мужчыну затрымалі міліцыянты ўвечары 25 лістапада на яго кватэры. Абвінавацілі ў тым, што ён лаяўся на міліцыянта, калі наведваў аддзяленне раніцай. Суткі мужчына правёў у ізалятары. Суддзя перанесла пасяджэнне на 5 снежня пасля патрабавання Каваленкі запрасіць адваката.

**КМ**

# «Спадарожнікі касмічныя тут чамусьці не збіраюць»

**Анархіст Ігар Аліневіч адмовіўся быць «стукачом».**

28 лістапада — роўна год, як Ігар знаходзіцца за кратамі. Спачатку яго выкралі з Расіі. А пасля судзілі тут, у Беларусі. І тэрмін ён атрымаў зусім немалы — 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. У дадатак канфіскавалі аўто.

Па словах мамы Валянціны Аліневіч, сын атрымаў такі тэрмін за тое, што адмовіўся супрацоўнічаць з КДБ. Тройчы. Спачатку маладому чалавеку прапанавалі выехаць за мяжу і стварыць там арганізацыю, якой кіравалі б з Беларусі. Затым — працаваць на спецслужбы хакерам з-за мяжы. А калі і гэты варыянт Ігар не прыняў, каб быў тут, пры КДБ. Усё роўна не заладзілася.

## Вокны камеры выходзяць на «Нафтан»

Аліневіч адбывае пакаранне ў наваполацкай калоніі. У прамысловым раёне. Вокны яго камеры выходзяць на «Нафтан». З другога боку знаходзіцца іншае прадпрыемства — «Палімір». Па словах Валянціны Міхайлаўны, на ўсю калонію расце толькі адно дрэва. Але і тое хворае.

Працы амаль няма. «Спадарожнікі касмічныя тут чамусьці не збіраюць», — іранічныя словы сына перадае яго маці (да арышту Ігар працаваў у гэтай галіне). Аліневіч хацеў атрымаць працоўную спецыяльнасць за кратамі, але не дазволілі. Свабодны час аддае спорту (стараецца штодня па гадзіне бегаць, абліваецца халоднай вадой) і чытанню.

Ігару шмат пішуць. Сябры, знаёмыя і незнаёмцы. Але не ўсе лісты да яго даходзяць. І несвоечасова. Так, у лістападзе аддалі пачак допісаў яшчэ за жнівень.

За ўвесь час малады чалавек толькі адзін раз патэлефанаваў бацькам. Адміністрацыя калоніі тлумачыла тым, што няма магчымасці. Маўляў, асуджаных надта шмат, якія хочуць тэлефанаваць. Незразумела было і са спатканнем, як расказала Валянціна Міхайлаўна. Нейкі час Ігару не падпісвалі адпаведны дазвол. А 18 лістапада бацькі атрымалі ліст, датаваны яшчэ першым чыслом, што на 19 лістапада дазволілі спатканне на 1,5 дня. Бацькі тэрмінова сабраліся і выехалі.

**Сяргей Макарэвіч**



**Ігар Аліневіч**

быў асуджаны на 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму па справе мінскіх анархістаў. Яго абвінавацілі ў арганізацыі шэрагу акцый у 2009—2010: антымілітарысцкага шэсця пад Мінабароны, нападзе на казіно «Шангры Ла», падпале дзвярэй філіяла «Беларусбанка», нападзе на пасольства Расіі ў Мінску, нападзе на ізалятар на Акрэсціна. Вінаватым сябе не прызнаў. Прашэнне аб памілаванні не прапаноўвалі напісаць, але не збіраецца яго і падпісваць. Праваабаронцамі залічаны да палітвязняў.

Падтрымаць маладога чалавека можна лістом: 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10.

# 15 кажаноў «засяліліся» ў мінскую кватэру

Гаспадыня **байцца спаць у кватэры**, а ЖЭС не ведае, што рабіць у такіх выпадках.



«Прыходзім ўвечары дадому, уключаем святло на кухні, а там цэлая «зграя» кажаноў». У Мінску на вуліцы Варанянскага ў кватэру Ганны Огневай «засяліліся» лятучыя сысуны.

«Яны лёталі па ўсёй кватэры, некаторыя віселі на фіранках, а адзін увогуле разлёгся, разгарнуўшы крылы, на падваконні».

Кажаны гаспадарылі ў кватэры ўвесь вечар. У МНС параілі «адчыніць акно, каб яны вылецелі», і не баяцца, бо кажаны ніякай небяспекі не ўяўляюць. Назаўтра кажаны ў кватэру вярнуліся.

**Кажан — бяскрыўдная істота. Крыві не п'е, у валасы не лезе »**

«Хутчэй за ўсё яны прабіраюцца праз дзіркі ў сцяне ў прыбіральні, — кажа гаспадыня кватэры. — А яшчэ яны пачынаюць шыпець — гук, як калі націснуць на асвяжальнік паветра».

У ЖЭСе ад каментароў адмовіліся. І санстанцыя, і «Фаўна горада» не ведаюць, што рабіць у такіх выпадках.

«Наша Ніва» звярнулася да спецыяліста па кажанах, супрацоўніка Цэнтра біялагічных рэсурсаў пры Акадэміі навук Аляксандра Шпака.

**Аляксандр Шпак:** Кажаны шукаюць месца з прыдатнымі ўмовамі для зімоўкі, часам прылятаюць на балконы.Ім трэба тэмпература трошкі ніжэйшая за нуль, адсутнасць гукавога фону, высокая вільготнасць. Калі ёсць магчымасць «пусціць» кажана на свой балкон, — гэта добра, ён ніяк не перашкаджае, а недзе на пачатку вясны зляціць сам.

**«НН»: Ці ад кажаноў можа сыходзіць нейкая пагроза?**

**АШ:** Не, крыві ён не п'е, у валасы не лезе, правадоў не грызе. Кажан — бяскрыўдная істота. Калі кажаноў выганяць, то гнаць іх трэба мяккімі рэчамі, не швабрамі, у адкрытае акно — хай вылятаюць. Адзінае, што, калі вы вырашылі ўзяць кажана ў рукі, трэба абавязкова апрануць пальчаткі — бо кажан можа ўкусіць, прычым будзе досыць балюча.

**Юрась Ускоў**

# Дарэнка: Беларусы — гэта хобіты

Папулярны расійскі журналіст Сяргей Дарэнка ў эфіры праграмы «Карціна свету» на тэлеканале «РТР-Беларусь» назваў нашу краіну **глухім кутком Еўропы**, а яе насельнікаў — хобітамі.

Вядучы праграмы, ён жа гендырэктар СТВ, Юры Казіятка не зрабіў ніякіх заўваг свайму госцю.

«Беларусы — індывідуалісты. Яны такія, калі дазволіце, калі вас не пакрыўдзіць, хобіты такія, шчыра, —кажа С.Дарэнка. — Беларусы — хобіты. У іх поўныя каморы. У іх пад ложкамі, значыць, вялікая колькасць якіхсьці памідорчыкаў. І ім трэба ў агуле, каб быў парадак. Вось парадак — і ўсё, разумееце?

Калі ўлада гарантуе захаванасць іх маленькага хутарскога такога шчасця, то беларусы ўвогуле не параццa ... Лукашэнка зусім ужо ў душу ўсім не лезе. Ён не гняце. Вось я не гляджу беларускае тэлебачанне. Гляджу Animal Planet. Дыхаю Беларуссю. З захапленнем маю зносіны з беларусамі. З захапленнем ем, з захапленнем фатаграфую. Я не магу сказаць, што мяне гняце нейкая дыктатура. Наадварот, гняце, што на Браслаўскіх азёрах гэтым летам быў дрэнны ўраджай белых, і значыць, вось грыбоў крыху менш, чым звычайна. А менавіта заўсёды 200 слоікаў у гаспадыні, а сёння ўсяго 100, разумееце».

Некалькі гадоў таму Дарэнка набыў кватэру ў Траецкім прадмесці Мінска.

**ЗП**



**Хобіты**

Нізкарослы народзец, прыдуманы англійскім пісьменнікам Джонам Рональдам Руэлам Толкінам. Іх рост усяго каля 90 сантыметраў, за што іх яшчэ называюць «палавінчыкамі». У хобітаў няма барады, у большасці сваёй яны схільныя да атлусцення. Не носяць абутку, бо на нагах ад прыроды тоўстая жорсткая скура і густыя валасы.

# Расіянка напампавала сабе самыя вялікія вусны ў свеце

Павялічваць вусны Хрысціна Рэй **пачала ў 17 гадоў**.

З тых часоў прыкладна кожныя чатыры месяцы яна робіць чарговую сіліконавую ін'екцыю. Гэта вельмі балючая працэдура, якую яна стойка пераносіць.

Затое цяпер Хрысціна заўсёды знаходзіцца ў цэнтры ўвагі. Не заўважыць дзяўчыну з такімі пульхнымі вуснамі проста немагчыма. Ёй нават прысвоілі неафіцыйны тытул уладальніцы самых вялікіх вуснаў у свеце. Праўда, яна сама так не лічыць, падазраючы, што дзе-небудзь у Афрыцы ёсць жанчыны з натуральнымі вуснамі і большых памераў.

**Сямён Цыбульскі**



**Фотафакт**



**У Гродне цыгарэты перакруцілі ў мясарубцы**

Акцыя ў тэатральным стылі пад назвай «Не спальвайце сваё жыццё» прайшла ў мясцовым гіпермаркеце «Алмі». Арганізатары прапаноўвалі абмяняць цыгарэты на цукеркі. Праўда, жадаючых знайшлося не так шмат.

**«Вечерній Гродно»**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Доўгі доўг

Сярод тых двух з паловай мільярдаў даляраў, якія Аляксандр Рыгоравіч атрымаў за «трубу», ёсць зусім невялічкія грошы, якія ён абяцаў люду яшчэ 17 гадоў таму.

А гісторыя ў снежні 1994 адбылася дзіўнаватая: да Аляксандра Рыгоравіча прыехалі Патапаў і Сіманаў, галоўныя рэдактары найбуйнейшых па тых часах газет — «Труда» і «Камсамольскай праўды». Прыехалі пазнаёміцца, а за адным махам задаволіць прапанову: за кошт доўгу краіны «Газпрому» падпісаць на свае газеты ўсіх ветэранаў вайны, працы і немаведама чаго яшчэ.

Трэба сказаць, што мне, на той час уласнаму карэспандэнту «Труда», не падабалася гэта прапанова. Вяхіраў, які тады ўзначальваў «Газпром», не лічыў грошы на падкормку ўзгаданых газет. І калі «Газпром» сапраўды хацеў дапамагчы беларускім ветэранам, то мог папросту абысціся без псеўдапалітычных захадаў. Зрэшты, «Газпром» без палітыкі — не «Газпром»... Да таго ж парушалася добрасумленная канкурэнцыя з незалежнымі беларускімі выданнямі. Адно супакойвала: упэўненасць у тым, што нічога з гэтага не атрымаецца. «Чаму?» — спытаў мой галоўны рэдактар яшчэ з Масквы. «Інтуіцыя падказвае. Вось пабачыце...»

...Сустрэча была прызначана на 10 раніцы. Без чвэрці мы ўжо былі ў левым крыле Дома ўрада, дзе месціўся тады прэзідэнт. Міліцыянт на ўваходзе нічога не ведаў, і «камсамолка» Вольга Ягорава ўпіхнулася ў вялізную чаргу да тэлефона на мармуровай сцяне...

Чаканне доўжылася хвілін сорак. Увесь гэты час Патапаў хадзіў з боку ў бок, заклаўшы рукі за спіну і паскрыпваючы скураным паліто. Па ўсяму было відаць, як бянтэжыла яго сітуацыя. «Ведаеш, як мяне сустракаў Краўчук?! На верталёце! А Туркменбашы?!» «На дыване-самалёце? — пажартаваў я і паабяцаў: — Яшчэ не тое будзе...»

**«Ведаю я вашых расійскіх жулікаў...» »**

«Не тое» з'явілася ў выглядзе рашучай напамаджанай жанчыны і двух амбалаў з дручкамі і кайданкамі на рамяні. Далей быў праход праз «рамку».

Нарэшце ўселіся за даўжэзным сталом — маскоўская дэлегацыя і прэзідэнт з памочнікам насупраць. І мой галоўны пачаў...

Трэба было бачыць, які жах адбіўся на твары былога інструктара ЦК КПСС, калі Аляксандр Рыгоравіч, паклаўшы на стол сціснутыя кулакі, раптам абарваў мудрагелістую прадмову: «Ведаю я вашых расійскіх жулікаў...»

І далей гаварыў толькі ён.

«...А вы ведаеце, што днямі на Маскву ляцелі два неапазнаныя аб'екты? І я загадаў іх збіць. Адной ракетай. А вы ведаеце, колькі каштуе адна ракета?!.»

Галоўны «Камсамолкі» нервова адарваў кавалак ад ліста чыстай паперы, нешта хуценька напісаў на ім і падсунуў Вользе. Памятаю даслоўна: «Тэрмінова высвятліць абставіны здарэння і інфармацыю ў нумар!» Я нахіліўся да «камсамольца»: «Не паспееце надрукаваць інфармацыю, як яны прызямляцца на Краснай плошчы...»

Шэпт прагучаў у раптоўнай цішыні. «А вы, — Лукашэнка скіраваў цяжкі погляд у мой бок, — крытыкавалі мяне падчас выбараў...». Я паціснуў плячыма: «Дэмакратыя. Нічога не зробіш...»

Праз колькі хвілін сустрэча скончылася распараджэннем выканаць прапанову, але папярэдне ўсё падлічыць. Я зразумеў, што будзе ўлічаны кошт ракеты...

Назаўтра ў газетах з'явілася інфармацыя аб тым, як рэдактары дамагаліся ад Аляксандра Рыгоравіча абвесціць падпіску на свае выданні за кошт... бюджэту краіны. Але ён не дазволіў...

Такая вось гісторыя. Падаецца мне, што яна мае нейкае дачыненне да продажу «трубы». Бо калі размова заходзіць аб атрыманні грошай, дык «Аляксандр Рыгоравіч», а калі аб вяртанні даўгоў — дык «краіна».

Дарэчы, у мяне ёсць уласная прапанова: за кошт двух з паловай мільярдаў абвесціць бясплатную падпіску на «СБ», хаця б для тых, каго вымушаюць падпісвацца. Нядрэнна было б адарыць усіх беларусаў і «Гарызонтамі» з «Віцязямі». З адной умовай: каб глядзелі толькі БТ.

Адно цяжка — падлічыць працэнты за 17 гадоў.

# Піва, БелАЗ, Кежман, спецназ

**Чым запомніўся** і чым расчараваў 21-ы чэмпіянат Беларусі па футболе.

### Чэмпіён

Букмекерскія канторы могуць проста не прымаць стаўкі, хто будзе першым у чэмпіянаце Беларусі. БАТЭ стаў наймацнейшым шосты раз запар і восьмы ў гісторыі. Цяпер па гэтым паказніку барысаўцы перагналі мінскае «Дынама», перамогі якога засталіся ў 1990-х.

### Стабільнасць

У маі традыцыйна змяніўся трэнер мінскага «Дынама». Бізнесмен Юры Чыж не лічыць да трох параз. Адна-дзве няўдачы — і тваё крэсла займае новы настаўнік. Расіяніна Алега Васіленку змяніў суайчыннік Сяргей Аўчыннікаў. Праўда, і ён ужо беспрацоўны. «Дынама» ж заняло ў чэмпіянаце толькі чацвёртае месца.

### The best

Найлепшым трэнерам чэмпіянату быў Алег Кубараў, які прывёў дэбютанта «Гомель» да перамогі ў Кубку і «бронзы» чэмпіянату. Брамнік — Аляксандр Гутар (БАТЭ), абаронца — Вадзім Яўсееў («Тарпеда-БелАЗ»), паўабаронца — Рэнан Брэсан (БАТЭ), нападаючы — Ягор Зубовіч («Белшына»). Брэсан, да ўсяго іншага, — найлепшы бамбардзір другі год запар.


GOALS.BY

Абурэнне гульнёй каманды выказалі фанаты «Дынама». На трыбунах яны чыталі газеты, а не сачылі за гульнёй.

| Месца | Каманда | Пункты |
|---|---|---|
| 1 | БАТЭ (Барысаў) | 66 |
| 2 | Шахцёр (Салігорск) | 61 |
| 3 | Гомель | 54 |
| 4 | Дынама (Мінск) | 49 |
| 5 | Белшына (Бабруйск) | 48 |
| 6 | Тарпеда (Жодзіна) | 41 |
| 7 | Нафтан (Наваполацк) | 37 |
| 8 | Нёман (Гродна) | 37 |
| 9 | Мінск | 35 |
| 10 | Дынама (Брэст) | 35 |
| 11 | Віцебск | 32 |
| 12 | Дняпро (Магілёў) | 32 |



Паўла Савіцкага не спыніць, не стрымаць. Цяпер за вундэркіндам палююць БАТЭ і «Зеніт».

### Сыходы

Дарэчы, аўтар славутага «х.й вам» у адрас валійцаў Вадзім Яўсееў стаў адной з разынак першынства. Усе меркавалі, што нічога вартага тытулаваны расеец у Беларусь не прынясе. А ён быў сапраўдным жодзінскім важаком, на якога раўняліся свае і чужыя. Нават БелАЗам не пабаяўся кіраваць. Праўда, налета Вадзіма мы не пабачым. Ён вырашыў завяршыць кар'еру гульца. Як і найлепшы снайпер у гісторыі нашага футбола Валеры Стрыпейкіс.

### Піва

Яўсееў, да слова, быў вельмі высокага меркавання пра беларускае цёмнае піва. Тое самае, якое пачалі прадаваць у мінскай Кунцаўшчыне на матчах «Дынама». Дазвол на продаж выбівалі доўга. Цяпер заўзятары могуць прапусціць перад пачаткам гульні ці ў перапынку куфаль хмяльнога напою. У Еўропе гэта даўно норма. Да нашых толькі пачало даходзіць.

### Брэнд

Хоць брэсцкае «Дынама» прапіску ў эліце захавала, налета такой каманды можа ўжо не быць. Справа ў тым, што фізкультурна-спартыўнае таварыства «Дынама» за свой брэнд запатрабавала 240 мільёнаў рублёў на год. У Брэсце ўсё палічылі і прыйшлі да высновы — дорага. Як будзе называцца каманда, пакуль невядома. Некалі ў горадзе над Бугам каманды зваліся «Рух» і «Пагоня». Чаму б не вярнуцца да каранёў.

### Расчараванні

Зорны серб Мацея Кежман так і не забіў у складзе БАТЭ ніводнага гола. Заставацца ў Беларусі ён не гарыць жаданнем. Форвард беларускай «маладзёжкі» Уладзімір Юрчанка ўвесь сезон праваляўся з траўмамі. Юрчанка, дарэчы, цыганскага паходжання, а дзядзька ягоны — барон.

### Адкрыццё

17-гадовы вундэркінд з Гродна Павел Савіцкі. Ён стаў найлепшым бамбардзірам і лідарам сваёй каманды, цяпер за ім палююць БАТЭ і піцерскі «Зеніт». У «Нёмане» ўвогуле дастаткова шмат маладых і перспектыўных. Будзе налета каманда, калі не раскупяць.

### Рэцікаў

Бойка паміж фанатамі «Дынама» і бабруйскім спецназам адбылася ў першай палове чэмпіянату. Прапаршчык Рэцікаў, што пусціў слезацечны газ на трыбуны, пакараны не быў. Пацярпелі тады не толькі фаны, але і футбаліст Афанасьеў.

### Няўдачнік

Летась «Дняпро» пашумеў у Еўропе, перамагаючы каманды з Нарвегіі, Чэхіі. А сёлета вылецеў з вышэйшай лігі. Магілёўцы — чацвёртая каманда-чэмпіён, якая апускалася з эліты. Да яго былі «Славія», «Белшына» і «Гомель».

### Перформанс

Фанаты мінскага «Дынама» чыталі на трыбунах газеты. Наведвальнасць трыбун застаецца балючым месца першынства. Сёлета яна вырасла толькі ў таго ж «Дынама» і жодзінскага «Тарпеда». У Беларусі на футбол ходзяць толькі сямёра з тысячы, у Нямеччыне — 79.

**Зміцер Панкавец**


GOALS.BY

На Радзіме Марка Сіміч гуляў за незаўважны клуб другога дывізіёна. Пасля школы БАТЭ футбаліста сталі выклікаць у зборную Сербіі.

# Застрэліўся 21-гадовы

«Я надта стаміўся ад жыцця. Мой час сышоў».

Здарэнне адбылося ў вёсцы Вулька-Арэя Столінскага раёна. Аляксандра Р. знайшлі 24 лістапада днём у кустах, непадалёку ад яго дома. Па версіі следства, малады чалавек стрэліў сабе ў грудзі з паляўнічай стрэльбы.

Па словах в.а. памочніка пракурора Столінскай пракуратуры Аляксея Юрчанкі, падставай для самагубства сталі праблемы на вучобе. Ён вучыўся ў Пінскім дзяржаўным індустрыяльна-педагагічным каледжы. Бацькоў Аляксандра напярэдадні запрасілі прыехаць у каледж з-за праблем з пераддыпломнай практыкай сына: ён не здаў справаздачу. Бацькі паўшчувалі сына. Але, па іх словах, гэта не быў скандал. Меркавалі, што 25 лістапада ўсе разам наведаюць каледж. Але сын з серады на чацвер не начаваў дома. А пасля яго знайшлі нежывым.

Як адзначыў Аляксей Юрчанка, у цэлым паспяховасць Аляксандра была добрай.

На мабільным тэлефоне маладога чалавека знайшлі перадсмяротны запіс: «Я надта стаміўся ад жыцця. Мой час сышоў. Я толькі зычу вам усім шчасця ў гэтым згасаючым свеце. Даруйце, я сыходжу».

Стрэльба, з якой Аляксандр застрэліўся, была зарэгістравана на яго. Малады чалавек каля двух гадоў з'яўляўся паляўнічым.

**Сяргей Макарэвіч**



Аляксандр быў паляўнічым.

# Выбух у гаражах у мінскай Масюкоўшчыне

Пацярпеў адзін чалавек.

Выбух здарыўся 22 лістапада ў кааператыве «Таксатар» у мінскім мікрараёне Масюкоўшчына. Тры гаражы былі разбураныя, шэсць аўтамабіляў — пашкоджаныя. 41-гадовага Уладзіслава Стальмахова з чэрапна-мазгавой траўмай, пераломам рэбраў, апёкамі даставілі ў бальніцу. Мужчына знаходзіўся ў гаражы сваіх знаёмых, калі там адбыўся выбух. Па словах Уладзіслава, ён рэзаў «балгаркай» метал, калі «мяне пацягнула некуды ўбок хваляй паветра. Як падняўся, гаражоў не было».

Па папярэдняй інфармацыі, у гаражы адбыўся выбух газапаветранай сувязі. Вядзецца следства.

**КМ**



**Гаражы прадугледжаны выключна для захавання аўтамабіля**, запчастак і ў абмежаванай колькасці гаруча-змазачных матэрыялаў (20 кг бензіну і 5 кг алівы), паведамілі ў прэс-службе Мінскага гарадскога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях. Усё астатняе, згодна з нормамі, пакідаць там нельга. Тым больш забаронена выкарыстоўваць гаражы пад склады. Найбольш распаўсюджанымі прычынамі пажараў у гаражах з'яўляюцца рамонтныя і вогненныя працы, якія праводзяць без узгаднення з упраўленнем МНС, а таксама эксплуатацыя электраўстановак, абагравальнікаў. Забаронена выкарыстанне гаражоў пад СТА, што нярэдка здараецца.

# У Мазыры забілі выпадковага чалавека

Сталі вядомы падрабязнасці патройнага забойства ў раённым цэнтры.

У мінулым нумары мы пісалі пра трагедыю ў Мазыры. Уначы 20 лістапада каля ігральнага клуба Good Luck 777 мужчына з паляўнічай стрэльбы застрэліў двух маладзёнаў. А сам загінуў пад коламі «Мерсэдэса». Прычынай трагедыі стала дзяўчына, якую адзін малады чалавек зняважыў, а другі хацеў абараніць.

Па інфармацыі пракуратуры, у ходзе следства было выяўлена, што ў ноч з 19 на 20 лістапада ў вёсцы Каменка Мазырскага раёна раней судзімы за хуліганства мужчына адпачываў у кампаніі сяброў. Падчас застолля ён пачаў заляцацца да дзяўчыны. А калі тая адмовіла яму, абразіў яе і настрашыў пнеўматычным пісталетам. Дзяўчына з'ехала ў Мазыр і там пра канфлікт расказала свайму знаёмаму, таксама раней судзімаму за хуліганства. У выніку мужчыны сатэлефанаваліся і дамовіліся пра сустрэчу каля гульнявога клуба. Крыўдзіцель дзяўчыны прыехаў на разборкі з сябрамі, адзін з іх, жыхар Мазыра, прыхапіў стрэльбу.

Пры сустрэчы на вуліцы мужчыны пачалі бойку. Паглядзець выбеглі іншыя наведнікі клуба. Убачыўшы гэта, мужчына са стрэльбай пачаў страляць у натоўп. Так ён параніў не датычнага да канфлікту 24-гадовага Алега, які потым памёр у бальніцы. Затым стрэліў другі раз, памылкова параніўшы свайго сябра, завадатара канфлікту. Калі мужчына паспрабаваў перазарадзіць стрэльбу, адзін з наведнікаў клуба адабраў зброю і некалькі разоў ударыў стралка. Той зваліўся на асфальт.

У гэты час смяротна паранены завадатар канфлікту дабраўся да машыны і сказаў кіроўцу адвезці яго ў шпіталь. Рухаючыся заднім ходам, кіроўца наехаў на мужчыну, які страляў. Той ад атрыманых траўмаў памёр на месцы.

Па крымінальнай справе «забойства» праходзяць адзін падазраваны. Гэта кіроўца, які выпадкова наехаў на стралка.

**Кастусь Матушыч**

# Чарговая аварыя з удзелам «Бэнтлі» ў Мінску

У аварыю трапіў легкавік, які каштуе каля $160 тысяч.

Bentley і Renault Laguna сутыкнуліся ўдзень 23 лістапада на вуліцы Прытыцкага ў Мінску. Ніхто не пацярпеў.

У ДАІ Фрунзенскага раёна паведамілі, што Renault Laguna па тэхнічных прычынах спынілася на перакрыжаванні. За рулём «Рэно» быў кіроўца 1974 г.н. Ён паспрабаваў завесці аўтамабіль, у гэты момант у яго ўрэзаўся Bentley. Кіроўца брытанскага аўто (1984 г.н.) патлумачыў, што не паспеў зрэагаваць. Супрацоўнікі ДАІ падкрэслілі, што малады чалавек не ўлічыў умовы надвор'я — у той дзень ішоў дождж. Па словах кіроўцы, ягоны Bentley (2007 г.в.) на момант набыцця каштаваў каля каля $160 тысяч.

Брытанскі легкавік Bentley — дарагая і досыць рэдкая машына ў Беларусі. Напрыклад, Bentley Arnage 2003 г.в. у Беларусі каштуе каля 60 тысяч еўра. А нядаўна ў Мінску быў заўважаны Bentley Mulsanne, які каштуе каля $550 тысяч. Не дзіва, што любое здарэнне з удзелам «брытанца», нават нязначнае, выклікае павышаную цікавасць у беларусаў.

Па звестках УДАІ МУС, усяго ў нашай краіне на дадзены момант зарэгістравана 17 аўто маркі Bentley.

**Сямён Печанко**

**Аварыі з удзелам «Бэнтлі» ў Мінску**

29 чэрвеня 2009 на праспекце Незалежнасці ў раёне Акадэміі навук кіроўца Volkswaggen Golf не прапусціла Bentley Continental GT. Кошт апошняга аўто сягае да $300 тысяч.

12 чэрвеня 2011 на рагу праспекта Пераможцаў і вуліцы Мельнікайце сутыкнуліся Bentley Continental GT і Lexus LX570. «Бэнтлі» (каля $150 тысяч) кіраваў галоўны трэнер мінскага хакейнага клуба «Юнацтва» Міхаіл Захараў. Ён быў нецвярозы. Пазней яго пазбавілі права кіравання аўто на 3 гады і аштрафавалі на 1225000 руб.

# Легкавік зляцеў з моста — загінулі трое

Трагедыя здарылася на мінскай акружной каля заезду з Зацані.

Кіроўца «Фальксваген Гольф» не справіўся з кіраваннем на шляхаправодзе на ўнутраным кальцы МКАД. Легкавік зляцеў з моста, ударыўся ў асвятляльную мачту і перавярнуўся. 20-гадовы кіроўца і яго 46-гадовая маці загінулі на месцы. 6-гадовая дачка жанчыны памерла ў бальніцы. Жанчына працавала галоўным бухгалтарам Свята-Елісавецінскага манастыра ў Навінках, яе сын — там жа рэзчыкам па дрэве.

**СП**

Заведзеная крымінальная справа паводле ч. 3 арт. 317 КК (парушэнне правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі аўтадарожных транспартных сродкаў, у выніку чаго па неасцярожнасці мела месца смерць двух і больш асоб).

**Паводле БелаПАН**

## Сцісла

**У метро загінуў чалавек**

На першай лініі мінскага метро 27 лістапада пад цягнік упаў чалавек. Паводле інфармацыі МНС, трагедыя здарылася на станцыі «Парк Чалюскінцаў» прыблізна аб 11-й раніцы. Прычыны здарэння высвятляюцца. Нябога — выкладчык ідэалогіі БДЭУ.

**Пешаходы пабіліся з кіроўцам**

У Мінску два маладыя чалавекі выйшлі на праезную частку ў недазволеным месцы, чым прымусілі кіроўцу аўто рэзка затармазіць. Сябрукі пачалі чапляцца да кіроўцы. Выпадковыя мінакі пабачылі канфлікт і выклікалі міліцыю. У затрыманых маладзёнаў знайшлі марыхуану. Ім пагражае да 5 гадоў турмы.

**Скралі люльку**

Міліцыя шукае злачынца, які ўкраў у Кобрыне са скульптуры «Боцман» бронзавую курыльную люльку. Здарылася гэта ў ноч на 24 лістапада, кошт скрадзенага — 3,44 млн рублёў.

**Паводле БелаПАН, БелТА**

# Узброенае паўстанне

Так, у перакладзе на сённяшнія рэаліі, можна назваць **Слуцкі збройны чын**.

27 лістапада незалежнае грамадства адзначыла Дзень героя — 91-ю гадавіну Слуцкага паўстання. Гэта быў не адзіны факт антыбальшавіцкага супраціву на тэрыторыі Беларусі ў тыя віхурныя часы. Але менавіта Слуцкае паўстанне мела пад сабой наймацнейшы палітычны грунт. На Случчыне адбыўся не стыхійны бунт, а сістэмная спроба адстаяць незалежнасць беларускай дзяржавы.

### «З'езд катэгарычна пратэстуе проці акупацыі і самазванай савецкай улады»

Паўстанне пачалося пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы, якая «пасекла край наш папалам». Польскія войскі, згодна з дамовай, адышлі, вызваліўшы нейтральную паласу, у якой якраз і ляжала Случчына.

У Слуцкім павеце моцныя пазіцыі займала партыя эсэраў. Эсэры стаялі за незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, яны ж 14—15 ліпеня ініцыявалі Першы з'езд Случчыны, што пастанавіў не пусціць бальшавіцкія войскі.

«З'езд катэгарычна пратэстуе проці акупацыі родных зямель чужацкімі наездамі і проці самазванай савецкай улады, як урад Кнорына і іншыя, якія паўтараліся на Беларусі. Бацькаўшчына наша зруйнавана чужынцамі, і мы, аддаючы справе адбудавання нашай Бацькаўшчыны ўсе нашы сілы і жыцці, звяртаемся да ўсяго свету і Саюза Народаў аб дапамозе ў стварэнні нашай вайсковай сілы», — пісалася ў рэзалюцыі З'езда.

У паўстанцкае войска за тры дні запісаліся тысячы людзей. Рада сфармавала два палкі: Першы Слуцкі і Другі Грозаўскі. Яны ўтварылі Слуцкую брыгаду пад камандаваннем Антона Сокала-Кутылоўскага. Камандаванне было размешчанае ў Семежаве.

«З паўстаннем Случчыны салідарызавалася тады ўся Беларусь. Беларускія жаноцкія арганізацыі прыслалі 1-му Слуцкаму палку палкавы сцяг нацыянальны з «Пагоняй», вышытымі на ім словамі прысвячэння: «Тым, якія першымі паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына!» — успамінаў былы старшыня З'езда Случчыны Васіль Русак. — Мы былі ў меншым ліку — хто не быў малы, не будзе вялікі! 12 тысяч паўстанцаў з аружжам у руках цэлай Случчыне сказалі голасна: «Гнаць польскіх паноў і маскоўскіх камісараў! Няхай жыве Вольная Беларусь!»

### Трымаліся месяц

Супраць паўстанцаў білася Омская дывізія. Случакі змусілі бальшавікоў адступаць па ўсім 100-кіламетровым фронце. Капыль—Цімкавічы—Вызна. Чырвонаармейцы з расійскіх сялян, сілай мабілізаваных, здаваліся ў палон. У баі ля мястэчка Капыль жаўнеры Грозаўскага палка захапілі роту з канцылярыяй і рэўкам.

Былі сутыкненні ля вёсак Быстрыцы, Васільчыцы, Верабейчыцы, Дашкава, Васілішкі, Лютавічы, Мацкевічы, Садовічы, Морач...

Але нястача зброі вылілася ў паразу пад Ядчыцамі 6 снежня. Беларускія часткі адышлі з Семежава. Не хапала амуніцыі, харчавання, пачалася эпідэмія тыфу. Пасля баёў ля Вызны і Семежава чырвоныя зайшлі далёка за дзяржаўную мяжу. Польскія войскі адсунуліся, каб даць магчымасць чырвоным разграміць паўстанцаў.

Раніцай 19 снежня Чырвоная Армія пачала рашучы наступ. Праз дзесяць дзён Слуцкая брыгада перайшла за раку Лань, на польскую тэрыторыю, і была раззброеная.

Паўстанцаў, якія вярнуліся дахаты, пасля рэпрэсавалі.

«Факт Слуцкага паўстання ставіць нас, беларусаў, на адну плошчу з перадавымі народамі СССР (грузінамі, украінцамі), — пісаў Васіль Русак. — Яны пасля развалу Расійскай імперыі хоць і не змаглі ўтрымаць сваю палітычную незалежнасць, але ў кожным выпадку вялі за яе ўпорнае змаганне».

**Сяргей Мікулевіч**




**У Дзень героя у Слуцку маладафронтаўцы прынялі прысягу на вернасць Бацькаўшчыне і сваім ідэалам.**

# Абарона Люсіна

**Невядомы эпізод паўстання:** вучні Якуба Коласа бараніліся некалькі тыдняў пасля капітуляцыі асноўных сілаў.

Пра гэта расказаў Уладзімір Рылка з вёскі Люсіна Ганцавіцкага раёна. У 1921-м група паўстанцаў некалькі тыдняў пасля капітуляцыі асноўных сілаў бараніла сваю вёску ад польскіх войскаў. Сярод паўстанцаў быў прадзед спадара Уладзіміра — Павел Міхайлавіч Занька.

«Прадзед расказваў, калі палякі пачалі забіраць Заходнюю Беларусь, Люсіна ніяк не маглі ўзяць, мучыліся. Каля нас цякуць дзве рэчкі — Карыціна і Выдранка. Між гэтых рэчак і сядзелі нашы ваяры. Іншага праезду не было, балота. Толькі 14 студзеня, на стары новы год палякі змаглі захапіць Люсіна». Сярод стойкіх люсінскіх паўстанцаў, безумоўна, былі вучні Якуба Коласа, які працаваў у вясковай школе на самым пачатку сваёй настаўніцкай кар'еры.

Як склаўся лёс Паўла Занькі? За Польшчай ён быў паліцыянтам, калі прыйшлі бальшавікі, уступіў у калгас і займаў там не апошнюю пасаду. Пад сталінскія рэпрэсіі не патрапіў, дажыў аж да 1995 года. Яго праўнукі гавораць па-беларуску.

Люсіна — вялікая вёска, у ёй жыве паўтары тысячы чалавек. Ці памятаюць тут пра паўстанне? «Дзяды паўміралі, ёсць пару бабулек, якія памятаюць яшчэ. А ў школе настаўнікі — моладзь з інстытута, іншагародція, яны пра мясцовыя падзеі мала ведаюць». Хоць у школьным музеі Якуба Коласа, кажа спадар Уладзімір, ёсць лісты паўстанцаў.

«Калі прыйшла незалежнасць, тут было многа нацыяналістаў, якія былі за Народны Фронт, — кажа спадар Уладзімір. — Іх палохалі, з працы звальнялі. Цяпер паўводзілі законы — не ўздыхнеш, але яшчэ ёсць людзі, которыя могуць казаць праўду. Нешта заложана ў вёсцы».

**СМ**

**Ініцыятыва**

# Зрабі падарунак Магілёву — выкупі кнігу XVIII стагоддзя!

Трэба сабраць **$500**.

«Часоўнік» XVIII стагоддзя быў надрукаваны на замову старавераў у Магілёве, у друкарні Богаяўленскага праваслаўнага брацтва. Адзін з калекцыянераў выставіў кнігу на інтэрнэт-аўкцыён.

Студэнт БДУ Андрэй Радкоў дамовіўся з калекцыянерам, што збярэ грошы на выкуп «Часоўніка». Цана — $500. Ён звяртаецца да грамадскасці з просьбай дапамагчы. Ужо, па словах Андрэя, адгукнуліся першыя ахвотныя. А дырэктар Музея гісторыі Магілёва прапанаваў выкупіць кнігу для яго музея. І гатовы знайсці частку грошай — 1600000 рублёў.

Летась Радкоў арганізаваў збор сродкаў, каб на інтэрнэт-аўкцыёне выкупіць метрычную кнігу (1759—1807) Ішкалдскага касцёла. Меркавалася, што ў ёй можа быць запіс аб хросце Ігната Дамейкі. Але на старонках кнігі ўдалося адшукаць толькі згадку пра бацьку Ігната — Іпаліта Дамейку: ён быў сведкам хросту дзяцей з сям'і Верашчакаў.

Краязнаўца Васіль Дубейка перадаў Андрэю Радкову яшчэ дзве метрычныя кнігі з Ішкалдзі. Андрэй пераводзіць іх у электронны фармат. Копіі кніг будуць перададзеныя ў музеі і бібліятэкі.

**Сяргей Макарэвіч**

**Пералічыць грошы можна на рахунак:**

АСБ Беларусбанк 514/300 01146417 на імя Радкова Андрэя Уладзіміравіча. Кантактны нумар: +375-25-7457467.

# Па просьбах трудзяшчыхся

У вагонах метро абвесткі пра патрэбу быць узаемна ветлівымі **перавялі на расейскую мову**. Чаму?

«Бо метро праходзіць праз вялікія транспартныя артэрыі — аўтавакзал, чыгуначны вакзал, і далёка не ўсе госці сталіцы могуць зразумець па-беларуску», — выкручваецца начальнік электрадэпо «Маскоўскае» Андрэй Міхайлоўскі.

На пытанне, ці няма ў планах увядзення для турыстаў і англійскай версіі заклiку саступаць месца цяжарным жанчынам і пенсіянерам, начальнік адказаў, што «абвестка мусіць прагучаць, пакуль цягнік стаіць, а прыпынку. Калі мы пачнём дубляваць, пераклад будзе складана пачуць праз грукат у тунэлі».

Іншыя абвесткі, назвы станцый будуць і надалей абвяшчацца па-беларуску, кажа Міхайлоўскі.

Чаму тады менавіта гэту абвестку вырашылі перакладаць? «Мы мелі шэраг скаргаў — моладзь не рэагуе на абвесткі пра ўзаемаветлівасць», — апраўдваецца Міхайлоўскі. І вінаватая тут, вядома ж, беларуская мова.

**Юрась Ускоў**

**Сцісла**

### «Ляпісы» ледзь не парвалі два баяны на юбілеі «ВВ»

«Воплі Відаплясава» адсвяткавалі 25-годдзе канцэртам у кіеўскім Палацы спорту. Гурт «Ляпіс Трубяцкой» выканаў адзін з галоўных хітоў «ВВ» — песню «Вясна» пад два баяны. Музыкі гралі, не шкадуючы інструментаў, пасля чаго адзін з іх ледзь не парваных баянаў быў падараваны лідару «Вопляў Відаплясава». Алег Скрыпка ўхваліў якасны падарунак і тое, што Міхалок праспяваў па-ўкраінску без акцэнту.

### Адменены канцэрт Вайцюшкевіча

Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў мінскай кавярні «Містраль» быў адменены за некалькі гадзінаў да пачатку. Ён меўся адбыцца 22 лістапада. Дырэкцыі кавярні патэлефанавалі з адміністрацыі Ленінскага раёна і забаранілі яго праводзіць.

### Сядзібу Чачотаў прадаюць за $10 000

На аўкцыён выставілі сядзібу Чачотаў, якая пазней належала Бохвіцам, у вёсцы Падароск (Ваўкавыскі раён). Аўкцыён прызначаны на 15 снежня і адбудзецца ў Гродне. Стартавая цана — 86,5 млн рублёў. У бліжэйшы час на аўкцыён будзе выстаўлена і сядзіба ў вёсцы Уселюб Навагрудскага раёна.

**СМ; радыё «Свабода»; Region4.by**

# Маладзечанская кругасветка

У кожнага горада ёсць **экскурсійны маршрут**.

Ёсць нават вялікія маршруты, якія не абмяжоўваюцца адным горадам, напрыклад, «Залатое кальцо Расіі» ці Астравецкая кругасветка.

А ў нашым горадзе, дзякуючы «дажынкаўскім» перабудовам, з’явіўся аглядны маршрут № 7, які пачынае рух з прыватнага сектара Залінейнага раёна і заканчвае на іншым канцы горада, дзе размешчаны хлебазавод. Кожны дзень аўтобус № 7, перакульваючыся з яміны ў яміну, павольна рушыць да чыгуначнага пераезда, дзе можа затрымацца і на паўгадзіны дзякуючы цягніку, таму што аўтобус прапускае транспарт, бо знаходзіцца не на галоўнай дарозе.

Чаму так падрабязна кажу? Каб вы адчулі ўсю павольнасць дзеяння і «прыгажосць» жыцця. Пераваліўшыся праз пераезд, аўтобус заязджае на мост, скаціўшыся з якога, трапляе на вакзал, і менавіта тут мне хочацца ўстаць і сказаць:

— Паважаныя маладзечанцы і госці другой культурнай сталіцы Мінскай вобласці, далучайцеся да нашай кампаніі. Усяго за 1100 бел. рублёў вы маеце магчымасць пазнаёміцца з цэнтрам аднаўленага горада Маладзечна ў рэальным асяроддзі. Дзякуючы прысутнасці мясцовых жыхароў вы арганічна ўпішацеся ў павольнае жыццё горада Маладзечна: завітаеце на фабрыку мастацкіх вырабаў, Палац культуры, Стары базар, Гарадскую паліклініку, Гарадскі парк, Музычнае вучылішча імя Агінскага, Тэатр Батлейка, Драматычны тэатр, Стадыён і ўрэшце набудзеце смачнае печыва на хлебазаводзе. Абавязкова застаняцеся задаволенымі, бо вы не мясцовы жыхар, які павінен кожны дзень ездзіць на працу і з працы на такім доўгім марудным маршруце...

За савецкім часам з так званых гістарычна Лясных курсавалі тры маршруты. Цяпер два. Другі, № 15, — проста падарунак багоў, дзякуючы, мабыць, малітвам дэпутата, з’явіўся на нашых абшарах не надта даўно, ходзіць не вельмі часта, але стабільна і па графіку, у адрозненне ад першага.

**Не хапае аўтобусаў, кіроўцаў, кандуктараў, а ў людзей не хапае цярпення »**

Народ цярпеў і сцерпіць усё, у тым ліку і адсутнасць пад’езду транспарту да чыгуначнага і аўтобуснага вакзалаў амаль 5 месяцаў. Праўда, спрабавалі пусціць часовы маршрут, але ніхто не ведаў, калі яго лавіць — раскладу не было. Знялі маршрут, бо стала нерэнтабельна.

Зразумела, што не хапае аўтобусаў, кіроўцаў, кандуктараў, а ў людзей не хапае цярпення, тэлефануючы ў аўтапарк, даведацца, што ўсе аўтобусы на маршруце, а калі ёсць праблемы, «можаце прыехаць і напісаць заяву...» Смешна.

Мяркую, такіх маршрутаў знойдзецца шмат па ўсёй Беларусі.

**Аля, Маладзечна**

## Як спецназ прымушаў мяне зняць шалік з нацыянальнай сімволікай

Хацеў бы расказаць пра выпадак **на матчы БАТЭ — «Вікторыя»**.

Даўно хацеў набыць шалік нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе, але не зялёны, а бел-чырвона-белы — ёсць такія. Перад матчам з «Міланам» выявілася, што гэта дэфіцытны тавар: толькі ў адной з пяці палатак, дзе рэалізуюць футбольную атрыбутыку, знайшоўся такі шалік, і тое апошні! Астатнія прадаўцы на маё пытанне: «Вам што, забаранілі іх прадаваць?» — адказвалі аднастайна: «Тыпу таго».

Дык вось, на матчы з «Міланам» усё было, скажам так, добра... Але на гульні з «Вікторыяй» я быў страшэнна здзіўлены. Перад матчам, ужо на сектары, калі я накінуў гэты шалік на куртку, да мяне падышоў старшына спецназа і запатрабаваў зняць яго, спасылаючыся на нейкі загад, што такія шалікі забароненыя! На маю просьбу загад, натуральна, не паказалі. Я атрымаў адказ: «Я вас папярэдзіў».

Давялося зняць шалік — бацька ўгаварыў... А калі я ўсё ж зноў надзеў «варожы» шалік, да мяне падышоў спецназавец, зноў з просьбай зняць яго. Яму было гадоў 20, мне стала шкада яго — у вачах было разуменне маразму аддадзенага яму загаду. Калі ён не выканае загад свайго начальніка, ён панясе пакаранне. І так у нас усюды. Гэтая страшная сістэма працуе на страху і запалохванні.

У святле нядаўніх судоў у краіне не захацелася зарабіць 15 сутак... Бо лёгка ўсё павярнулі б так, што я лаяўся матам, гэта ў нас проста.

**Аляксандр Б., Мінск**

## З півам заўсёды вясёлы

На днях выйшла на БТ **рэклама піва** «Б…».

Дзе нахабна сцвярджаецца, што з «Б...» ты заўсёды вясёлы, бесклапотны і радасны, як у пятніцу ў чаканні выходных і адпачынку. Дзяцей спойваюць, разбэшчваюць пры дапамозе чыноўнікаў. П’янымі лягчэй кіраваць, лягчэй трымаць у пакоры.

**Ігар Пастоў, Віцебск**

## «Не можаце ўзяць нармальны абед — не хадзіце сюды»

Нядаўна адкрыўся **новы інтэрнат БДУ**.

Каля яго ёсць сталоўка, куды мы рэгулярна заходзім. Неяк раніцай адбылося наступнае. Даю касіру купюру 100 тысяч, а яна адмаўляецца яе прымаць:

— Як вы мяне дасталі, — кажа касір, — што набіраеце па 10 тысяч. Не можаце ўзяць нармальны абед — не хадзіце сюды.

На ўваходзе назва «Сталоўка студэнцкая», а гэтая сотня была апошняй у мяне ў кашальку.

**Аляксей Г., Мінск**

## Расейскую мову павінны ведаць усе! Зразумела?

**Сабраўся раніцай** на працу, а жыву я ў адным са спальных раёнаў сталіцы.

Выйшаў з пад’езда, заглыбіўся ў свае думкі, цешачыся першаму снегу.

Вярнуў мяне да рэчаіснасці крык: «Ты что не панімаеш па-руску? Рускій далжны панімаць усе! Панятна?»

Жанчына выгульвала свайго маленькага сабачку. Яму не падабалася халоднае надвор’е і снег, які падаў з неба, і ён пастаянна намагаўся прысесці і, згрупаваўшыся, такім чынам абараніцца ад холаду.

«Я сказала: будзем гуляць, значыць будзем!» — рэзюмавала жанчына.

**Міхась Трайчанскі, Мінск**

# Беларуская глыбіня. **ПапарацЬ-людзі**

Піша Павел Севярынец.

*Дзе скарб ваш,*
*Там будзе і сэрца вашае.*
*Мацвея 6:21.*



**Павал Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

«Паша, вітаю. Так, Паша, чаму ўчора не тэлефанаваў? Табе што, нічога не патрэбна?»

Гэта — Анатоль Сахаруша з Малеча, 15 км ад Купліна. У любы дзень, час сутак, любое надвор’е ён падкіне машынай гасцей або возьме іх на начлег, даставіць свежую прэсу, прывязе любую дробязь. За шэсцьдзясят, сівы, але бадзёры, жвавы, усмешлівы, спадар Анатоль родам з Сяльца — таго самага, адкуль сваякі Уладзіміра Высоцкага і Алеся Разанава, з ваколіцаў якога сям’я Андрэя Макарэвіча і матуля Анатоля Папанава.

Пасля падаўлення Пражскай вясны 18-гадовы слухач «Свабоды» Сахаруша задаў выкладчыку вучэльні пытанне, якое паставіла на вушы тутэйшы аддзел КДБ: «Што за студэнты выйшлі ў Маскве на Красную плошчу пратэставаць супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію?» Бацькоў настрашылі, прыймач даручылі сканфіскаваць.

Дыпламаваны аграном, Сахаруша сышоў з калгаса, бо не мог трываць бязглуздага гаспадарання. Уступіў у Фронт ды заснаваў мясцовую газету «Крыніца». І жыхары, і чыноўнікі ведаюць: калі што — да Сахарушы. Тыя, хто ўчора хаяў «бээнэфаўца», сёння прызнаюць: Анатоль, а ты меў рацыю!

Прыглядаюся, прыслухваюся — і чую ў ягонай гаворцы разанаўскі задуменны рытм і хрыплую праўду Высоцкага і бачу шырокую Макарэвічаву ўсмешку.

Галоўны беларускі скарб — глыбокія людзі, з роду ў род закопаныя ў глебу, утоптваныя ў твань, топленыя ў балотах — раптам прарастаюць, як у легендах алхіміі, расцвітаюць і ззяюць неверагоднымі цудамі. Беларуская глыбіня дала чалавецтву Дастаеўскага і Міцкевіча, Касцюшку і Шагала, Быкава і Пазняка, і цяпер тоіць тысячы самаахвярных праведнікаў і ціхіх геніяў.

Мы шукаем іх, быццам папарать-кветкі, кожны ў сваім гушчары.

**Галоўны наш скарб — глыбокія людзі »**

Не тры кіты, не вертыкальныя слупы ва ўладзе, не наглядчыкі з Масквы, Піцера ці Мінска — а глыбокія беларусы, па пояс ці па грудзі ў дрыгве, дзякуючы ім Беларусь дагэтуль не апусцілася ў багну. Людзі, у якіх беларускасць глыбокая-глыбокая — часам як крыніца, часам як студня, часам як бездань. Ці ведаем мы іх?

З якіх, зарытых тут стагоддзі таму, спеўных генаў прабіўся Юрый Давідзюк, евангельскі вернік, паэт, аўтар гімна Кобрына і прадзюсар маленькага фенаменальнага Данілы Казлова з «Еўрабачання»?

Адкуль у Пінску, дзе за веданне свайго краю ссылалі, расстрэльвалі і закопвалі паглыбей у зямлю, з’явілася Алена Лягун, унікальны гід — арыентуецца на Берасцейшчыне як ва ўласнай хаце, праводзіць экскурсіі і для дэмакратаў, і для начальства, і для замежных турыстаў выключна па-беларуску?

Ці ведаеце Алеся Янушкевіча, пружанскага каваля (выліты Дастаеўскі на выгляд), што робіць брамы, агароджы ды іншае металёвае аздабленне ажурным, бы лісце белавежскіх лясоў, гаспадара «Майстэрні металавырабаў» (ах, як прымушае страпянуцца сэрца на ўездзе ў былы вайсковы гарадок Куплін беларускамоўная шыльда)?

Ці чулі пра Міколу Іллючыка з вёскі Багданаўка Лунінецкага раёна, аўтара пранізлівай кнігі вершаў «Шматкроп’е кропель» і хрысціянскіх спеваў, запісаных з сям’ёй і евангельскай грамадой на дыскі «Мелодыя душы» і «Паміж небам і зямлёй»?

Ці знаёмыя вы з сям’ёй Малашчанкаў, баранавіцкіх прадпрымальнікаў, прыхаджанаў грэка-каталіцкай царквы, якія дамагліся, каб іхняя Яся склала асобны беларускамоўны першы клас, адзіны на ўвесь горад, і іх святаром, айцом Яўгенам Маліноўскім, аўтарам кнігі «Парусія», які выкладае філасофію па-беларуску ў Баранавіцкім дзяржаўным універсітэце?

А няўжо з беларускай горычы вырас унікальны пчаляр з Лінёва, што на Пружаншчыне, археолаг і краязнаўца Мікола Папека, які вось ужо дзявяты год уручае літаратурную прэмію Берасцейшчыны — 1 пуд мёду?

І ці не з пасеяных касцей паўстанцаў XIX ст, пахаваных у тутэйшых пушчах, паднялося і зацвіло папарацьцуда ў лясной вёсачцы Дварэц на Дзятлаўшчыне, дзе Наталля Ляўкевіч, выдатная настаўніца з клуба «Спадчына» выхоўвае беларускасць і хрысціянскую культуру ў маленькіх вяскоўцаў? Збіраюць грамадою ягады, здаюць, а грошы пералічваюць на рахунак «Краязнаўчай газеты», што задыхаецца без падтрымкі. Чуеш «Магутны Божа» і вершы Багдановіча ад пяцікласнікаў і думаеш, якой прыгажосці пазбаўлены мільён беларускіх дзетак у сучасных школах...

Калі ў беларускай глушы вам раптам спаткаецца чалавек з глыбокімі вачыма, у якіх дрыжыць неба і мігцяць зорачкі, — прыгледзьцеся больш пільна: можа быць, гэта скарб, схаваны на ўзмежжах, зарослых верасам і дрымотнікам балотаў, той самы скарб, які прарасце і заззяе адвечнай папарацЬ-кветкай у час, вызначаны Госпадам Богам.

*Куплін*

# Гісторыя Беларусі. Частка XXII
# Ці былі князі феадаламі?

Піша **Алег Дзярновіч**.

У мінулым выпуску «Гісторыі Беларусі» («НН» №35) мы пераканаліся, што ў IX—XI стст. на тэрыторыі нашага краю шырылася рабства. У гэтым гісторыкі, як ні дзіўна, бачаць прагрэс, бо пашырэнне рабства падмяняла сабой рэшткі першабытна-племяннай арганізацыі. А што ж у такім разе з феадалізмам, у катэгорыях якога традыцыйна апісваюць грамадства Кіеўскай Русі?

Тэрмін «феадалізм» паходзіць ад лацінскага feodum — так у заходнееўрапейскіх краінах называлі адну з формаў буйнога землеўладання. У французскай мове слова «феод» гучала як «ф'еф», а ў нямецкай яму адпавядала паняцце «лен». У славянскіх катэгорыях яму можа адпавядаць «воласць». Паняцце «феадалізм» пачало выкарыстоўвацца англійскімі юрыстамі ў XVII ст. — як тэрмін судовай практыкі. У XVIII ст. французскія гісторыкі сталі ўжываць тэрмін як грамадска-палітычнае паняцце. Паўстала разуменне феадалізму як этапу сацыяльна-эканамічнай гісторыі, што адпавядаў у Еўропе Сярэднявеччу.

Сістэма арганізацыі грамадскіх адносін, якую мы прызвычаіліся называць феадалізмам, у класічнай форме склалася ў Францыі ў XI—XII стст. Галоўнай яе прыкметай лічыцца васальна-ленная сістэма. Вышэйстаячы прадстаўнік дваранства — пануючага ў грамадстве сацыяльнага слоя (сіньёр) — жалаваў зямлю (якая называлася феодам/ф'ефам ці ленам) і гарантаваў апякунства васалу, які стаяў на ніжэйшай прыступцы іерархічнай лесвіцы. За гэта васал абяцаў сіньёру вайсковую службу.



Палітычная эліта X ст.: так выглядаў княскі дружыннік, пахаваны ў Гнёздаве, — магчыма, ён памёр падчас палюддзя. (Выява па матэрыялах археалагічных раскопак.)

### Палюддзе — доўгая выправа

Ці так было на беларускіх абшарах у IX—X стст.? Найперш, не бачна якіх-небудзь прыкмет феадальнай зямельнай уласнасці — уся зямля ўспрымалася як дзяржаўная ўласнасць, а дзяржаву ўвасабляў князь. Кіраўнік дзяржавы таксама арганізуе і збор даніны — «палюддзе».

Географ і палітолаг X ст., а па сумяшчальніцтве візантыйскі імператар Канстанцін Парфіранароджаны, так апісваў палюддзе ўсходнеславянскіх князёў: «Зімовы ж і суровы лад жыцця тых самых росаў (русаў) наступны. Калі надыходзіць лістапад месяц, у той жа час іх архонты (князі) выходзяць з усімі русамі з Кіева і кіруюцца ў палюддзе, гэта значыць у кругавы абыход, а менавіта ў славініі вервіянаў (драўлянаў), другувітаў (дрыгавічоў), крывічоў, сяверыяў (севяранаў) і іншых славянаў, якія плацяць даніну русам. Кормячыся там на працягу ўсёй зімы, яны зноў, пачынаючы з красавіка, калі растане лёд на рацэ Дняпро, вяртаюцца ў Кіеў».



Князь, які прымае даніну. Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу.

Тэрмін візантыйскай канцылярыі «славініі» звычайна перакладаюць як «славянскія плямёны». Хоць спе-цыялісты лічаць, што меліся на ўвазе больш дасканалыя супольнасці тэрытарыяльна-палітычнага характару, якія, відавочна, ужо не былі племяннымі ўтварэннямі.

Штогадовае палюддзе было грандыёзным прадпрыемствам — кіеўская дружына на чале з князем за паўгода праходзіла паўтары тысячы кіламетраў. Шлях пралягаў праз Чарнобыль, Брагін, Любеч, Рагачоў у крывіцкія Копысь і Смаленск. Потым ужо праз Чарнігаў дружына вярталася ў Кіеў. Смаленск быў самым аддаленым і паваротным пунктам кругавога княскага аб'езду, сярэдзінай шляху. Менавіта сюды сцякалася крывіцкая даніна.

### Адкуль пагосты

Смаленск быў і на сярэдзіне шляху паміж Кіевам і Ноўгарадам. Таму не дзіўна, што пад Смаленскам, на правым беразе Дняпра, узнік велізарны лагер. Горад IX—X стст. у Гнёздаве, верагодна, вядомы ў скандынаўскіх геаграфічных трактатах як Сюрнэс (Sýrnes). Курганны могільнік Гнёздава налічвае да шасці тысячаў насыпаў і з'яўляецца адным з найбуйнейшых могілак у старажытнай Еўропе. «Сталіца» палюддзя тут супала з волакам шляху «з варагаў у грэкі».

У іншым пункце «кружэння», Копысі, памяць пра палюддзе захоўвалася да XII ст., калі ў грамаце першага смаленскага князя Расціслава Мсціславіча прыгадваюцца толькі два пункты, дзе збіралася гэтая даніна і «на Копысі палюддзя чатыры грыўны...» З часам спосаб збору даніны ўдасканаліўся: з'явіліся пагосты — месцы, куды самі падданыя звозілі даніну. Адным з такіх кіеўскіх пагостаў было і Заслаўе, куды князь Уладзімір выслаў бунтоўную жонку Рагнеду.

Традыцыйна гісторыкі лічылі палюддзе формай феадальнай рэнты. Але дзе ж васалы, якія атрымлівалі б зямлю за службу ад сіньёра-князя? Расійскі гісторык Ігар Фраянаў разглядае даніну IX—XI стст. выключна як кантрыбуцыю, якую накладалі кіеўскія князі на заваяваныя плямёны. У падобнай залежнасці, адзначае даследчык, «няма і грама феадалізму». Іншы пецярбургскі гісторык Андрэй Дварнічэнка ўзмацняе яго словы, сцвярджаючы, што ў Полацкай і Смаленскай землях феадалізм раней за XIV—XV стст. увогуле не склаўся.

### Клан, а не іерархія

Яшчэ пытанне — ці існавала ў IX—XI стагоддзях на Русі іерархічная феадальная лесвіца. Кіруючая эліта тады ўяўляла з сябе хутчэй клан, які лічыўся адной сям'ёй, бо меў агульнага легендарнага продка — Рурыка. Землі (княжанні) пераходзілі па колу ад брата да брата. Гэта рабіла лад Русі падобным да «азіяцкага спосабу вытворчасці», які прадугледжваў поўную манаполію дзяржавы на зямельную ўласнасць.

І толькі Полацкая зямля была дзіўным выключэннем, бо там у канцы X ст., пасля Ізяслава, замацавалася нетрадыцыйная для Русі сістэма перадачы ўлады ад бацькі да сына. Полацкія князі лічыліся «Рагвалодавымі ўнукамі» па кудзелі. Яны не бралі ўдзелу ў калектыўным пераразмеркаванні супольнай дзяржаўна-зямельнай уласнасці клана, хоць па мячы былі Рурыкавічамі. Унукі Рагвалода задавальняліся Полацкімі ўладаннямі, імкнучыся пашырыць іх шляхам захопу суседніх тэрыторый.

### Дружына як партыя ўлады

Грамадская эліта Русі IX—X стст. складалася з князёў і ваенна-дружыннай знаці. Яна існавала за кошт збору даніны і судовых штрафаў з насельніцтва. Зародкі прыватнага буйнога землеўладання пачалі з'яўляцца толькі з сярэдзіны X ст. і толькі ў кіеўскіх князёў.

Дружына на Русі, якую ўзначальваў князь, не была чыста вайсковым фармаваннем. Гэта была карпарацыя, у якую была аб'яднаная ўся свецкая ўлада пануючага слою. Патрапіць у гэты слой у раннім Сярэднявеччы можна было толькі праз уступленне ў дружыну.

Даследаванні гісторыкаў заходнееўрапейскага Сярэднявечча паказваюць, што многія варварскія дзяржавы германцаў (асабліва там, дзе не было рымскай культурнай і прававой спадчыны) прайшлі праз перыяды раннедзяржаўнай уласнасці на зямлю. Пасля ўжо стала афармляцца феадальная зямельная ўласнасць з усімі складанымі працэдурамі прыняцця васалітэту ды складання васалам прысягі вернасці сеньёру (цырымонія так званага «амажу»). Русь IX—XI стст. цалкам упісваецца ў гэтую схему перадфеадальнага ладу, дзе яшчэ не існавала васалітэту.

Вось такое перапляценне дзяржаўнай уласнасці, рабства і асобных прыкметаў феадалізацыі было сацыяльным ладам беларускіх земляў у тыя часы.

---

**З Дняпра вылавілі меч князя Святаслава?**

Жыхар Запарожжа падчас рыбалкі на Дняпры вылавіў старадаўні меч. Іржавы меч даўжынёй 96 см і вагой каля кілаграма рыбак падчапіў спінінгам і падняў з 22-метровай глыбіні. Як паведамляюць інфармагенцтвы, навукоўцы адразу заявілі, што гэтай зброі не менш за тысячу гадоў і належала яна нейкаму вяльможу. Магчыма, што і самому князю Святаславу Ігаравічу — вялікаму князю кіеўскаму, які загінуў на Дняпры ў баі з печанегамі.

Тронкі мяча багата аздобленыя золатам, срэбрам, меддзю. Тое, што, праляжаўшы ў прэснай вадзе 1100 гадоў, артэфакт добра захаваўся, — неверагодная падзея. Зброя практычна цалкам захавала сваю форму.



**БелТА**

# «Ружа вятроў-2011»



1-3 снежня ў Мінску адбудзецца Міжнародны фестываль прыгажосці «Ружа вятроў HAIR-2011» і чэмпіянат Беларусі «Стыль і прыгажосць-2011» па цырульным мастацтве, нэйл-дызайне і дэкаратыўнай касметыцы. Для ўдзелу будуць запрошаныя спецыялісты з Расіі, Украіны, Малдовы, Літвы, Латвіі, Этоніі, Польшчы, Арменіі, Фінляндыі, Казахстана.

PHOTO.BYMEDIA.NET

## ХАКЕЙ

### «Дынама» і «Поўначсталь» у гасцях

**У рамках першынства Кантынентальнай хакейнай лігі** ў Мінск прыедуць: 2 снежня — «Дынама» (Масква), 4 снежня — «Поўначсталь» (Чарапавец). Першы матч пачнецца **на «Мінск-Арэне» а 19-й, другі — а 17-й**.

## ІМПРЭЗЫ

### Свет скуры і футра

**У выставачным павільёне НВЦ «БелЭкспа» (Янкі Купалы, 27) з 8 да 10 снежня** працуе выстава-кірмаш «Свет скуры і футра», сфармаваная з зімовых калекцыяў новага сезона.

### Калядны дабрачынны кірмаш

**9 снежня ў Палацы моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** адбудзецца Калядны дабрачынны кірмаш, на якім будуць прадстаўленыя сувеніры, кнігі, карціны, нацыянальныя слодычы… **Пачатак а 10-й.**

## КАНЦЭРТЫ

### Маланка

**1 снежня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — «Маланка».

### Kazalpin

**Беларуска-швейцарскі праект Kazalpin** (ethno-jazz) прэзентуе дэбютны альбом у Беларусі. 30 лістапада адбудзецца прэзентацыя ў Мінску (клуб LOFT), а потым — у Брэсце, Гродне і Рэчыцы. Kazalpin — гэта міжнародны праект, які складаецца з беларускага этнічнага вакальнага трыа Akana і джаз-бэнда Albin Brun Alpin Ensemble са Швейцарыі.

### Максім Багдановіч

**7 снежня а 19-й у Вялікай зале філармоніі** — канцэрт «Да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча».

### Горан Брэгавіч

**1 снежня а 19-й у Палацы Рэспублікі** — канцэрт Горана Брэгавіча і ягонага вясельнага і пахавальнага аркестра.

### Apple Tea

**7 снежня а 19-й у Малой зале КЗ «Мінск»** — Apple Tea.

### Кіно

**4 снежня а 19-й у Графіці (зав.Калініна,6)** — акустычны трыб'ют-канцэрт «Кіно». Бяруць удзел «Дай Дарогу», Пётр Клюеў і іншыя.

### Воплі Відаплясава

**14 снежня а 19-й у Палацы Рэспублікі** «Воплі Відаплясава» са спецыяльнай праграмай «Дзень нараджэння».

## ВЫСТАВЫ

### Рукатворы

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** да 10 снежня працуе выстава беларускага каліграфа Генадзя Мацура «Рукатворы».

Усе «Рукатворы» ідуць «ад рукі», хоць і з дапамогай розных прыладаў, ад традыцыйных пяра, пэндзаля і паперы да камп'ютарнай графікі. Але ў кожнай працы рукатворная аснова.

### Сцежкі творчасці. Фрагменты

**Да 8 студзеня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава Яўгена Казюлі «Сцежкі творчасці. Фрагменты». Больш за пяцьдзясят гадоў у фатаграфіі — гэта не проста лічба, якая падкрэслівае ўзрост, а звілістая сцежка жыцця, падобная на бясконца доўгую стужку фотаплёнкі, на якой дзень за днём, крок за крокам адбіліся падзеі, вобразы, пачуцці ад сустрэч на творчым шляху Яўгена Казюлі.

### Creative Fields

**З 30 лістапада да 14 снежня ў Нацыянальнай школе прыгажосці (Мельнікайце, 4)** адбудзецца выстава Creative Fields. Прастора школы стане арэнай камунікацыі для сучаснай фатаграфіі і аўдыёвізуальнага live перформансу, моды і эксперыментальнага дызайну.

### Горад унутры

**Да 10 снежня ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе фотапраект Вольгі Бубіч «Горад унутры», прысвечаны Мінску і яго жыхарам. У работах Вольгі Бубіч Мінск паказаны не зусім такім, якім яго малююць на паштоўках. Горад тут можна ўбачыць вачыма сучаснай моладзі, якая актыўна ўзаемадзейнічае з прасторай сталіцы: кідае выклік і марыць, дасягае і губляе, атрымлівае асалоду ад цішыні паркаў ці акунаецца ў шум плошчаў.

### Я не самотны…

**З 7 да 23 снежня ў Палацы мастацтваў (Казлова, 3)** працуе выстава «Я не самотны…», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. У выставе возьмуць удзел больш за сотню беларускіх жывапісцаў, графікаў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

### Краіна цудаў

**У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (пл.Кастрычніцкая, 1)** да 10 снежня працуе выстава Аксаны Аракчэевай «Краіна цудаў», дзе можна ўбачыць ілюстрацыі да дзіцячых кніг, часопісаў, афішы і запрашальнікі Тэатра юнага гледача, а таксама работы да анімацыйнай стужкі «Прылятай, ветрык!», дзе Аксана Аракчэева выступіла ў якасці мастака-пастаноўшчыка.

### Мінск Барыса Аракчэва

**У Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10) да 10 снежня** працуе выстава твораў Барыса Аракчэева — летапіс роднага горада мастака, які ён піша ўсё сваё жыццё. Вобраз Прасвятой Багародзіцы ў беларускім іканапісе XVII–XVIII стст.

### Вянок Максіму

**Да 9 снежня ў галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі** працуе мультыпраект-выстава «Вянок Максіму», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

### Kodex

**Да 10 снежня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава Kodex, на якой дэманструюцца некаторыя аспекты развіцця сучаснага мастацтва ў краіне.

Беларускія мастакі актыўна інтэгруюць замежныя навацыі ў свае творчыя стратэгіі. За апошнія дзесяць гадоў значна пашырыўся жанрава-відавы спектр мастацтва. Фотамастацтва, арт-дызайн, мастацтва акцый, камп'ютарная графіка сталі натуральнай часткай мастацкіх працэсаў.

### Балаганчык: Японскі куфэрак

**Да 10 снежня ў бібліятэцы імя Пушкіна (Гікалы, 4)** працуе выстава аўтарскіх лялек «Балаганчык». Свае творы пакажуць Марына Скідан, Таццяна Хаберская, Вольга Чаканава, Ірына Ражко, Маша Капілава, Галіна Дзмітрук. Таксама можна наведаць экспазіцыю класічных японскіх лялек і працы беларускіх мастакоў-лялечнікаў на тэму Японіі.




### Апокрыф

**9 снежня а 19-й у Вялікай зале філармоніі** — прэм'ера мюзікла-прытчы «Апокрыф» кампазітара Ларысы Сімаковіч, як знак пашаны моцнаму перакананню Багдановіча, што народ, які не ўсведамляе ролі духоўнага ў сваім жыцці, пазбаўлены будучыні, пра тое, што «добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком».

## ТЭАТРЫ

### 30 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Кармэн-сюіта»

### 3 снежня

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 4 снежня

**Лялек** — «Жудасны спадар Ау»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

### 5 снежня

**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 6 снежня

**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»

### 7 снежня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

### 8 снежня

**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Алена Сяргееўна»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»

### 9 снежня

**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»

### 10 снежня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»

### 11 снежня

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядзе»

## КІНО

### Злачынны кот

**Кот у ботах** (Puss in Boots)
ЗША, 2011, каляровы, 90 хв, 3D
**Рэжысёр:** Крыс Мілер
**Жанр:** Анімацыйныя казачныя прыгоды
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

Кот у ботах палюе за чароўным бобам, каб забрацца на аблокі і скрасці адтуль гуску, якая нясе залатыя яйкі. Герой мусіць аб'яднаць свае высілкі з хітрым Жаўтуном-Баўтуном і зладзейкай Кісай.

Пухнаты кацяра прайшоў праз сіроцтва і падлеткавыя крадзяжы, пасябраваў з Жаўтуном-Аляксандрам Баўтуном, марыў, здзяйсняў геройствы, сутыкнуўся з падманам. У фільме — іспанскія мелодыі і спякотная пустыня, драпежныя ездавыя дзікі і прыдуркаватыя разбойнікі, маленькая «залатая» гуска і ейная вусцішная матуля. Але мы не пачуем арыгінальнага голасу Антоніа Бандэраса — анімацыя дублюецца ў Расеі.

Стужка настолькі прадуманая, што амаль механічная.Зрэшты, пухнаты разбойнік так хлебча малачко ў салуне і палюе за сонечным зайчыкам, што фільму можна дараваць многае.

**Андрэй Расінскі**



# Гуртам лягчэй і зніжку выбіваць

**Як купіць тавар у інтэрнэце і заплаціць толькі 50% ад цаны?**

Калектыўная купля — гэта не толькі стаянне ў чарзе на Камароўцы за танным малаком. Так называецца новы крок у развіцці маркетынгу, які дазваляе пакупнікам аб'ядноўвацца ў групы і купляць тавар заграмаднай зніжкай.

Найлепшае месца для сустрэч — інтэрнэт. Амерыка і Еўропа ўжо даўно ахопленыя «купонаманіяй», год таму яна прыйшла і да нас, але сапраўдную папулярнасць толькі пачынае здабываць.

### Як працуе схема?

Пакупнік заходзіць на спецыяльны сайт, дзе выкладзеныя прапановы ад кампаній. Напрыклад, акцыя «мадэльная стрыжка са зніжкай 50% усяго за 5000 рублёў» азначае, што варта набыць на сайце купон цаной 5000, раздрукаваць яго, прыйсці ў цырульню і атрымаць зніжку. Такія акцыі могуць тычыцца любой паслугі ці тавару — ад курсаў замежных моваў да мабільнага тэлефона.

Але не ўсё так проста. Звычайна прадавец выстаўляе ўмову: акцыя адбудзецца толькі тады, калі збярэцца 50 ці 100 пакупнікоў. Калі ахвотных не знойдзецца, грошы за купон вернуцца на рахунак пакупніка. Выгада кампаній, якія аб'яўляюць акцыі, якраз у тым, каб прыцягнуць шмат пакупнікоў і прадаць ім аптовую партыю.

Пакуль што зніжкавых прапаноў у Беларусі не надта шмат, таму для пошуку патрэбнай паслугі можна чакаць і тыдзень, і два.

Людзі ўсё яшчэ ставяцца да купонных продажаў з недаверам, бо паверыць, што прадавец адкіне ад цаны 50%, надзвычай складана. Ці насамрэч такія зніжкі працуюць?

### Стратэгія недагаворвання

Возьмем для прыкладу «Тур у госці да Дзеда Мароза». На сайце аднаго з турагенцтваў праграма каштуе 170 тысяч рублёў для дарослага і 150 тысяч для дзіцяці. Адзін з «купонных» сэрвісаў прапануе такі самы тур за 85 тысяч. Няўжо зніжка насамрэч складае 50%?

Не ўсё так проста. Папершае, параўнаўшы праграму «дарагога» і «таннага» тура, можна ўбачыць, што пакупнікі купона мусяць дадаткова набыць уваходны білет да Дзеда Мароза. Падругое, сам купон каштуе 11 тысяч рублёў. У выніку замест 150 тысяч давядзецца заплаціць 130 тысяч. Эканомія на паездцы для дзіцяці складзе не абяцаную палову, а ўсяго 9%.

Прыведзены прыклад нагадвае — уважліва чытайце ўмовы, бо на рынку шмат нядобрасумленных прадаўцоў. Можа атрымацца, што танна хадзіць у басейн вы зможаце толькі з 7 да 8 гадзін раніцы, а кошт «са зніжкай» дзіўным чынам супадаць са звычайнай цаной у іншых кампаній. Грошы ўжо будуць заплачаныя, і вярнуць іх не ўдасца. Але побач з такімі прапановамі ёсць і дзясяткі сапраўдных, якія дазваляюць ашчадзіць свае грошы і з карысцю правесці час.

**Ягор Марціновіч**

**Якія сайты працуюць у Беларусі?**

www.polceny.by
www.kupi-kupon.by
www.pokupon.by
www.kupon.relax.by



**Як набыць купон?**

У залежнасці ад сайта могуць прапаноўвацца розныя варыянты. Гэта электронныя грошы WebMoney, перавод EasyPay, крэдытныя карткі ці банкаўскі перавод. Тыя, хто не ведае, што такое віртуальныя грошы, могуць набыць купон смс-паведамленнем з мабільніка. Сродкі спішуцца з рахунку.

# Як зрабіць вашы валасы прыгожымі і здаровымі

**Што такое экранаванне, элюмінаванне і каўтэрызацыя?**

Здаровыя і прыгожыя валасы — мара кожнай жанчыны. Гэтым карыстаюцца вытворцы касметычнай прадукцыі, пастаўляючы на рынак новыя тавары і паслугі па догляду за валасамі.

За апошнія гады пералік паслуг беларускіх цырульняў і салонаў прыгажосці значна пашырыўся. Мы вырашылі высветліць, для чаго прызначаная тая ці іншая працэдура. Разабрацца ў гэтым дапамагаў стыліст, кіраўнік Дома прыгажосці «Мусон» Аляксандр Кірынюк.

**Тэрмастрыжка**, альбо стрыжка гарачымі нажніцамі, дае эфект запайвання волаcа. Гэта абараняе яго ад шкоднага вонкавага ўздзеяння і захоўвае ўнутры ўсе каштоўныя рэчывы. Пры традыцыйнай стрыжцы кончыкі валасоў застаюцца «адчыненымі», што прыводзіць да крохкасці, «пасечанасці».

Пры тэрмастрыжцы рэжучая частка нажніц награваецца ад электратоку да патрэбнай тэмпературы (80—180°C у залежнасці ад тыпу валасоў). Затым майстар стрыжэ, як звычайна. Можаце не хвалявацца за сваю бяспеку: паверхня нажніц пакрытая ахоўным корпусам з пластыку, што абараняе галаву ад цеплавога ўздзеяння.

Выконваць такую працэдуру спецыялісты раяць раз на 1-2 месяцы. У першую чаргу — ўладальніцам светлых валасоў, а таксама, калі вашы валасы тонкія.

**Кошт — каля 150 000 рублёў**

Сярод паслуг цырульных салонаў ёсць глазураванне, ламінаванне, элюмінаванне і экранаванне. Усё гэта — працэдуры зберагальнага безаміячнага фарбавання, таніравання валасоў са стварэннем ахоўнай плёнкі, якая надае дадатковае ззянне.



PHOTO BYMEDIA.NET

Самай недарагой працэдурай групы з'яўляецца **глазураванне** — пакрыццё валасоў пластам «глазуры» з керамідамі. Гэта дае дадатковы бляск, што асабліва заўважна на порыстых і пашкоджаных валасах. Глазурная плёнка змываецца за пару тыдняў.

**Кошт — каля 300 000 рублёў**

Калі вы хочаце, каб вашыя валасы не толькі ззялі, але і павялічыліся ў аб'ёме, можаце паспрабаваць **ламінаванне**. На валасы на паўгадзіны наносіцца спецыяльны раствор з карыснымі рэчывамі, які ахінае валасінкі і «заляпляе» пасечаныя кончыкі. Затым «ламінат» змываюць. У выніку валасы атрымліваюць дадатковае ззянне і аб'ём. Такі эфект доўжыцца ад 3 да 6 тыдняў, паступова змываючыся. Беларускі найчасцей робяць ламінаванне напярэдадні важнай жыццёвай падзеі: выпускнога ці вяселля.

**Кошт (у залежнасці ад даўжыні валасоў) — 400 000 — 1 000 000 рублёў**

**Экранаванне** — гэта догляд за валасамі, які забяспечвае ахову ад уздзеяння навакольнага асяроддзя, сілкаванне і ўвільгатненне. Па меркаванні некаторых спецыялістаў, экранаванне лечыць унутраную структуру валасоў, а ламінаванне — вонкавую.

**Кошт — каля 400 000 рублёў**

Калі ламінаванне зробіць вашыя валасы бліскучымі, не змяняючы іх колер, то **элюмінаванне** — гэта фарбаванне валасоў спецыяльным рэчывам — элюменам. Элюмінаванне называюць яшчэ іонным фарбаваннем, волас зараджаны станоўча, а фарбавальнік — адмоўна. У выніку колер трымаецца даўжэй, а валасы робяцца больш здаровымі, бо фарбаванне элюменам не вымагае акісляльніка. Па ўздзеянні на валасы элюмен параўноўваюць з хной.

Элюмен наносяць на сухія і чыстыя валасы з дапамогай спецыяльнай насадкі і вытрымліваюць 20—30 хвілін. Насадка неабходная, каб фарбавальнік не патрапіў на скуру галавы. Трымаецца элюмен 3-4 тыдні.

**Кошт (у залежнасці ад даўжыні валасоў) — 400 000 — 1 000 000 рублёў**

**Каўтэрызацыя** — гэта лячэбная працэдура, якая сілкуе і паслядоўна ўзнаўляе пашкоджаны волас: ад унутранай часткі да паверхні. Бывае халодная і гарачая каўтэрызацыя. Апошняя выкарыстоўваецца, калі валасы надзвычай пашкоджаныя. Працэдура ўключае некалькі этапаў: **1.** Мыццё галавы спецыяльным шампунем. **2.** На вільготныя валасы наносяць каўтэрызацыйную сыроватку, пасля чаго іх сушаць феном і праводзяць парыкмахерскім прасам. Цеплыня неабходная, каб усе карысныя рэчывы патрапілі ў волас. **3.** Затым — яшчэ адно мыццё галавы і нанясенне комплексу спецыяльный сродкаў.

Пры халоднай каўтэрызацыі паслядоўнасць дзеянняў такая ж, але без выкарыстання праса. Курс лячэння ўключае чатыры працэдуры ў месяц.

**Кошт — каля 300 000 рублёў**

**Аксана Рудовіч**

## Прыватныя абвесткі

**ВІНШАВАННІ**

Замілавана ды з ахвотай
Глядзіш, калі Мікола Котаў
Мовай танца размаўляе,
Сусвет пазнаць нас запрашае.
Кожны рух мае аснову,
Вечнасць доўжыць ім без слова,
Нашу спадчыну трымае,
Кут свой родны праслаўляе.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



«Студэнткай года» стала Марына Сініца з Віцебска. Ва ўзнагароду яна атрымала планшэтны камп'ютар Prestigio. Марына — студэнтка пятага курса эканамічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта.



PHOTO BYMEDIA.NET

За туманам нічога не відна. Барысаўскі БАТЭ саступіў дома пльзенскай «Вікторыі». Цяпер шанцы на працяг барацьбы прывідныя. Для гэтага камандзе Віктара Ганчарэнкі трэба перамагаць у гасцях «Барселону».



У Мінску выяўлены «цэх па вытворчасці» галюцынагенных грыбоў. Вырошчваў іх 26-гадовы мінчук. Цяпер супраць яго завялі крымінальную справу.



## Анекдоты

* * *

— Чаму Лукашэнка гнуўся на сустрэчы з Мядзведзевым і Пуціным?

— Прымерваўся, як будзе несці дадому цяжкі мех з грашыма.

* * *

Нацбанк спадзяецца, што хаця б 200-тысячную купюру падрабляць будзе выгадна.

* * *

Прызначаная лінгвістычная экспертыза выказванняў Сяргея Міхалка ў адрас Аляксандра Лукашэнкі. Яе будзе рабіць палкоўнік філалагічных навук.

* * *

Ёсць такія рашэнні, пасля прыняцця якіх прусакі ў галаве апладзіруюць стоячы!

* * *

– Ходзяць чуткі, што футбольны клуб БАТЭ пераводзяць у Мінск.

– Ага, хопіць гуляць у Лізе Чэмпіёнаў! У КХЛ час выступаць.

* * *

У Беларусі на ўроках працы робяць табурэткі, а ў Кітаі — айфоны.

* * *

– У вас праблемы з фатаграфіяй у пашпарце.

– Якія праблемы? Вунь я, чацвёрты справа.

* * *

– Сынок, ты звязаўся з кепскай кампаніяй.

– Мама, я яе заснаваў.

## «НН» сто гадоў з вамі

Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе.
Не загіне край забраны,
Покі будуць людзі.
Ночка цёмная на свеце
Вечна не пачуе;
Зерне, кінутае ў ніву,
Усходзе ды красуе.

*Янка Купала*

**«НН». №47-48. 1911.**

**На мінулым тыдні былі арыштаваныя** дырэктар мінскага завода халадзільнікаў Калугін, дырэктар стадыёна «Трактар» Алейнікаў, намеснік кіраўніка Беларускай чыгункі Назарэнка. Адпраўлены ў адстаўку і кіраўнік чыгункі Віктар Рахманько. Іх абвінавачваюць у эканамічных злачынствах.

**«НН». №48. 2001.**



У адным з брэсцкіх магазінаў пакупцоў шакуюць нізкімі цэнамі на каўбасу. Выстаўленыя цэннікі нагадваюць аб салодкіх перадвыбарных абяцаннях: даляры па 3 тысячы рублёў і пяцісотдаляравы заробак. Адна праблема — цана пазначана за 100 грамаў.

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7600. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 29.11.2011.
Замова № 5696.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12